B 20 149 D

# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“) (8) München 19. Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана аднаго нумару: Нямеччына** й іншыя эўрапейскія краіны — 50 фэн.; **ЗША** й **Канада** — 30 сант.; **Ангельшчына** — 1,5 шыл.; **Аўстралія** — 2 шыл. **Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

ERSCHEINT VIERTELJÄHRLICH DREI MAL

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“

THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 6 (633)

Кастрычнік-сьнежань (Oktober-Dezember) 1965

Год выданьня 19 (19. Jahrgang)

# БОЖАЙ МІЛАСЬЦЯЙ

## *Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне*

ДА ЎСЯЧЭСНАГА ДУХАВЕНСТВА, ПРЭПАДОБНАГА МАНАСТВА, І ЎСІХ БАГАЛЮБНЫХ ВЕРНІКАЎ НАШЫХ НА ЧУЖНЕ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ПРАБЫВАЮЧЫХ

## КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*«Дзе Народжаны Цар Юдэйскі, бо мы ўбачылі зорку Яго»* (Мц. 2, 2).

УЛЮБЁНЫЯ ДЗЕЦІ НАШЫЯ!

Зорка Віфлеемская зазьзяла на небе: ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ! Ангелы славасловяць Яго, людзі радуюцца! Радуюцца й пакланяюцца Яму, Хрысту, Богу й Спасу нашаму, ня толькі звычайныя пастыры, але й вучоныя, тры каралі: «Дзе Народжаны Цар Юдэйскі? Бо мы ўбачылі Зорку Яго на Ўсходзе й прыйшлі пакланіцца Яму. І Зорка йшла перад імі, пакуль ня спынілася над месцам, дзе было Дзіцятка. Убачыўшы-ж Зорку, яны ўзрадаваліся радасьцю вялікаю» (Мц. 2, 2, 9-10).

Так, гэтаю Зоркай быў, ёсьць і навекі будзе для нас Хрыстос, Каторы Сьвятлом Сваім у цемры жыцьця нашага зьзяе: «І вы добра робіце, што зьвяртаецеся да Хрыста, як да Зоркі, што ў цемры сьвеціць» (2 Пёт. 1, 19). Доўга людзі чакалі на гэтую слаўную Зорку. Ужо ў Старым Запавеце Валаам, з волі Божай, усклікнуў: «Бачу Яго, але Яго яшчэ няма, і ня скора прыйдзе Ён. Усходзіць Зорка з дому Якуба» (Чыс. 24, 17).

Але вось радасьць вялікая прыйшла для людзей: «Слова Целам сталася, і пасялілася між нас. І Сьвятло ў цемры сьвеціць, і цемра не агарнула яго» (Іо. 1, 14, 5). А што гэтым Сьвятлом-Зоркаю для нас ёсьць запраўды Ісус Хрыстос, тут Ён Сам так сьветчыць нам: «Я, Ісус, паслаў Ангела Майго пасьведчыць вам гэта ў цэрквах. Я корань і род Давідавы, Зорка сьветлая, ранічная» (Адкр. 22, 16).

Але, Зорка сьветлая, ранічная, гэта нашае сонейка яснае: Ісус Хрыстос, Гасподзь Бог і Спасіцель наш! Таму Ангелы сьвятыя ў гэтую цудоўную, ціхую, Сьвятую Ноч натхнёна й засьпявалі: «Слава на вышынях Богу, і на зямлі мір людзям добрае волі» (Лк. 2, 14).

Але, Зорка сьветлая, ранічная зазьзяла нам! Дзіцятка Нарадзілася! Сын Божы даны нам! Улада на плячох Яго, бо-ж імя Яго: Эмануіл, З НАМІ БОГ! «Бо Гасподзь Бог так палюбіў сьвет, што й Сына Свайго Адзінароднага аддаў, каб кожны, хто ўверуе ў Яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае» (10. 3, 16). І сьв. вярхоўны Апостал Павал усклікае: «Ты ўжо ня раб, ня чужы, а сын Богу, а калі сын, то й спадкаемца Божы праз Ісуса Хрыста» (Гал. 4, 7). Вось для чаго зазьзяла Зорка ясная: Хрыстос, Сын Божы, зыйшоў зь Неба на зямлю, нарадзіўся як Дзіцятка!

Так, радасьць вялікая для ўсіх людзей добрае волі! Радасьць тым большая, што цудоўная Зорка гэтая прасьвятляе цемру й нашага дачаснага штодзённага жыцьця, паказвае нам шлях, суцішае нашыя болі, душы й сэрцы напаўняе супакоем і шчасьцем, як Ён, Хрыстос, і апавясьціў нам праз прарока: «Дух Госпада Бога на Мне, бо Гасподзь памазаў Мяне дабравесьціць убогім, паслаў Мяне лячыць зламаныя сэрцы, вызваляць палонных і вязьняў з цямніцаў, сьляпым адкрываць вочы, прапаведваць лета Гасподняе, пацяшаць тых, што сумуюць, церпяць» (Іс. 61, 1-2).

Але, Ён, Хрыстос, нашае Сьвятло, Лек, Шлях, Жыцьцё, Супакой, Радасьць, Шчасьце й Спасеньне! Вось Каго мы спатыкаем у Сьвяты Вечар у сваіх хатах ды ў сьв. Цэрквах; Тут Ён зноў родзіцца ў душах і сэрцах нашых, і мы абнаўляемся, становімся сынамі й дочкамі Яго, Бога нашага, народам Ягоным, сьвятым, паводля словаў Апостала: «Вы — род выбраны, царскае сьвяшчэнства, народ сьвяты, каб апавяшчаць цноты Таго, Хто паклікаў вас з цемры ў цудоўнае Сьвятло Яго» (1 Пёт. 2, 9).

Таму сяньня Ангелы й людзі радуюцца, пяюць Хвалу Зорцы ранічнай, Сыну Божаму! ХРЫСТОС НАРАДЖАЕЦЦА — ЯГО СЛАЎЦЕ! Слаўце Нараджэньне Яго, Бога й Спаса нашага ўжо ў хатах вашых! Сьпявайце Хвалу Яму, Боскаму Дзіцятку: Бог Прадвечны Нарадзіўся! Няхай Ён, Спасіцель наш, зьявіцца вам, і зь любоўю глядзіць на вас, як вы славіце Яго, і споўніць усе просьбы вашыя. І тут успомніце ўсіх тых вашых родных і блізкіх, якіх няма сярод вас, і тых усіх, што аддалі душы свае за Веру й любую Маці нашую Беларусь, і тых, што пакутуюць пад уладаю бязбожнікаў дома, і Боскае Дзіцятка выслухае просьбы-малітвы вашыя, багаславіць вас і іх.

Асабліва цяпер, у нашыя цяжкія часы, дарагія дзеці Нашыя, будзем цьвёрда верыць, што разьвеюцца чорныя хмары над Зямелькаю нашаю й зноў зазьзяе над ёю Зорка ясная, ранічная — Сонца Божае й нашае Праўды й Свабоды, Хрыстос, Бог і Спас наш, і нашая любая й шматпакутная Маці-Беларусь народзіцца да новага, вольнага й радаснага жыцьця ўжо навекі! Бо: З НАМІ БОГ! Яму хвалу складайце!

У гэтай Веры, Любові й Надзеі на Нованароджанага Госпада Бога й Спаса нашага Ісуса Хрыста вітаем вас, усячэсныя Айцы й любыя Браты й Сёстры з сьветлым і радасным Сьвятам РАСТВА ХРЫСТОВАГА і з надыходзячым НОВЫМ ГОДАМ. Пасылаем вам і ўсяму нашаму Вялікаму Беларускаму Народу Нашае Архіпастырскае багаславенства, і ўсклікаем: Бог Прадвечны Нарадзіўся! Яго й Прачыстую Дзеву Марыю слаўце!

Ласка, Мір і Багаславенства Госпада, для нас Народжанага, Князя Супакою, Валадара жыцьця нашага Ісуса Хрыста разам з Богам Айцом і Богам Духам Сьвятым няхай будзе з усімі вамі. АМІНЬ.

**Зьмірэнны Архіяпіскап СЕРГІЙ**
Галава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

**Зьмірэнны Архіяпіскап ВАСІЛЬ**
Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ на Чужыне.
Дана Году Божага 1965
месяца сьнежня
Аўстралія-Амэрыка.

## НАРАДЖЭНЬНЕ



## ХРЫСТА

**Усім нашым Суродзічам на Бацькаўшчыне й на чужыне жадаем Вясёлых Калядаў і шчасьлівага Новага Году**

**Рэдакцыя**

# КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ

## Яго Эксцэленцыі Часлава Сіповіча Апостальскага Візытатара для Беларусаў-католікаў

**Дарагія Браты й Сёстры ў Хрысьце!**

Разважаючы сяньня над прыйсьцем Хрыста на сьвет, затрымаемся над тэй вялікай падзеяй — нам-жа вельмі блізкай, аднак у сваім вонкавым выглядзе ўжо закончанай і якая перайшла да гісторыі: над Другім Ватыканскім Саборам.

Сабор-бо ня йнакш трэба разумець як жывую праяву Хрыстовай рэнэсансу ў Царкве.

Нам было дадзена ня толькі назіраць звонку шырокую й дынамічную дзейнасьць Сабору, але быць адным зь ягоных удзельнікаў, браць удзел у працы камісіяў і забіраць голас у дэбатах.

Як усім ведама, Сабор склікаў Добры Папа Ян XXIII. Нямала зьдзівіўся сьвет, што перад гэтым малаведамы гіерарх, калі быў выбраны наступнікам Апостала Пятра ў пажылыж гадох (меў тады 77 год), адважыўся аж на такі вялічэзны крок. Бачна ён зрабіў гэта з натхненьня Духу Сьвятога і слоў Хрыста, сьціраваных калісьці да галілейскага рыбака: «Сказаў Сымону: адплыві на глыбіню і закінь сеці твае дзеля лову!» (Лук, 5, 4).

Папа Ян XXIII, вялікі пры сваёй сьціпласьці, адважны ў сваёй дзейнасьці, не дажыў навет да часу, калі палова саборных працаў была закончана. Памёр у вачох вернікаў сьвятым, пакідаючы за сабой глыбокі сум усіх людзей. Ідэі аднак яго, прасякнутыя шчырай любоўю да гэтага сьвету, жылі, і ягоны наступнік Папа Павал VI, ня менш рашучы ў пачынах, шчасьліва давёў да канца II-гі Ватыканскі Сабор.

Прыгледзімся цяпер да працаў Сабору. Бяз сумлеву зьяўляецца ён паводля складу ягоных ўдзельнікаў, як таксама дзеля абыйма тэмаў, якія распрацоўваў, найбольш усяленскім у гісторыі. Няма, бадай, тэй краіны ці такога народу, ад якога ня было на Саборы біскупа або прадстаўніка іншага характару.

Такжа зьмест працаў Сабору быў вельмі разнаякі: там былі закранутыя і салідна прадускутаваныя праблемы чыста тэалягічныя аб Богу, аб сьв. Пісаньні, аб Царкве; такжа пытаньні місійнага й апостольскага характару; пытаньні свабоды слова і сумленьня, атамная вайна, бязбожжа, пытаньні грамадзкага й сямейнага жыцьця.

Да ўсіх гэтых справаў Айцы Сабору падыходзілі аб'ектыўна і зь любоўю праўды, ідучы за радай вялікага хрысьціянскага філёзафа сьв. Аўгустына, які казаў, што «ніякае дабро ня можа быць дасканала пазнаным, калі перш яго дасканала не пакахаеш».

Таму працы Сабру можна разглядаць з патройнага гледзішча: любові Бога, любові Царквы і любові чалавека.

**Любоў да Бога** праявілася ў тым, што Сабор адцягнуў увагу чалавека ад штодзённага занятку, а накіраваў яго на шлях Боскага пакліканьня і на шлях абавязкаў у дачыненьні да Бога. Сабор быццам штурхнуў усіх людзей да сьмелага й яўнага вызваленьня свае веры, да праслаўленьня Бога-Творцы, да перайманьня Хрыста ў сучасным гэтак збаламучаным сьвеце рознымі сумлевамі, а навет яўным адступствам ад Яго.

Аб сваім пачэсным заданьні Айцы Сабору выказваліся наступна: «Слухаючы Божае слова з найглыбейшай пашанай і абвяшчаючы яго зь верай, Сьвяты Ўсяленскі Сабор выконвае тое, аб чым гаварыў апостал Ян: «Абвяшчаем вам жыцьцё вечнае, якое было ў Айца і зьявілася нам, і мы бачылі й чулі, абвяшчаем вам, каб і вы мелі лучнасьць з намі, а нашая лучнасьць з Айцом і Ягоным Сынам Ісусам Хрыстом» (Ян 1, 2-3).

Сабор зьяўляецца актам **любові ў дачыненьні да Царквы.** Ён павучае, што ўсе людзі твораць адзін народ — народ Божы, грамадзтва асаблівае, бачанае й духовае. Гэтае грамадзтва й ёсьць Царква, якая ня гледзячы на разнаякі склад народаў, якія ў яе ўваходзяць, розныя мовы, звычаі і абрады, ёсьць адзінай у еднасьці веры, сцэмантаваная ўсёабгортвальнай любоўю.

Калісьці Хрыстос зьвяртаўся да Пятра: «Сымон Ёнін, ці любіш ты мяне больш, чым яны?» (Ян 21, 15). І ў той час даручыў Ісус Пятру вялікі абавязак Пастыра: «Ісус кажа яму: пасі авечкі мае» (тамсама). Пастырскі абавязак Пятра выплывае зь ягонае любові да Хрыста. Таму ў прынятай Саборам Канстытуцыі «Аб Царкве» чытаем наступныя словы:

«Гэта ёсьць адзіная Хрыстова Царква, якую ў іншых літургічных малітвах вызнаем адзінай, сьвятой, каталіцкай і апостальскай, якую наш Збаўца пасьля свайго ўваскрошаньня перадаў Пятру-Пастыру; яму, а такжа іншым апосталам даручыў пашыраць Яе і навекі ўзьнёс Яе як калёну і цьвярдыню праўды. Гэтая Царква існуе ў сьвеце як грамадзтва ўстаноўленае і ўпарадкаванае, і такой ёсьць Каталіцкая Царква, кіраваная на-

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

# Выступленьне К. Кісялёва ў ААН

II-га кастрычніка на пленарным паседжаньні XX сэсіі Генэральнай Асамблеі ААН у Нью Ёрку выступіў з прамовай кіраўнік дэлегацыі Беларускай ССР К. Кісялёў. Ён закрануў, з савецкіх прапагандовых пазыцыяў, важнейшыя міжнародныя праблемы сучаснасьці, але галоўны націск паклаў на неабходнасьць канчатковай ліквідацыі каляніялізму, на забясьпечаньне ўсім народам сьвету нацыянальнай свабоды й незалежнасьці, на недапушчальнасьць умешваньня збоку ўва ўнутраныя справы сувэрэнных дзяржаваў.

На міжнародным форуме, міністар замежных справаў БССР Кісялёў рашуча асуджаў тыя парадкі, якія вельмі падыходзяць якраз да палажэньня ў СССР. Ня зьбіраемся рабіць якіх-небудзь сьцьверджаньняў адносна мэтаў ягонага выступленьня. Зацытуем лепш адпаведныя месцы зь ягоных выказваньняў і параўнаем іх з палажэньнем, у якім знаходзіцца Беларусь.

Кісялёў гаварыў:

«Беларуская СССР, якая будуе сваю палітыку на ленінскіх прынцыпах дружбы й супрацоўніцтва паміж народамі, міру й мірнага суіснаваньня паміж дзяржавамі з рознымі сацыяльна-эканамічнымі сыстэмамі, надае выключнае значэньне пытаньню аб забароне замежнага ўмяшаньня. Ні для каго не сакрэт, што небясьпека для міру ўзьнікала і ўзьнікае менавіта ў сувязі з умяшаньнем ўва ўнутраныя справы сувэрэнных дзяржаваў».

Узьнікае пытаньне: ці Беларуская ССР сувэрэнная дзяржава ці не. Дарэчы, Кісялёў нідзе выразна не сказаў, што Беларуская ССР — сувэрэнная й незалежная дзяржава. Але дапусьцім, што ён яе такой уважае. У такім выпадку Беларуская ССР не павінна была-б цярпець ніякага ўмяшаньня ў свае ўнутраныя справы. А што мы маем на практыцы? На практыцы мы маем больш як умяшаньне, бо вонкавая палітыка, абарона, гаспадарчае плянаваньне, бюджэт рэспублікі сканцэнтраваныя ня ў Менску, не ў беларускіх руках, а ў Маскве. Маскве падпарадкаваны дзяржаўны й партыйныя апарат рэспублікі, з Масквы ідуць дырэктывы і ў пытаньнях нацыянальнай культуры й асьветы.

Далей, у сваім выступленьні ў ААН кіраўнік беларускай дэлегацыі Кісялёў гаварыў:

«Хутка споўніцца пяць гадоў з дня прыняцьця Генэральнай Асамблеяй на ініцыятыву Савецкага Саюзу гістарычнай Дэклярацыі аб прадстаўленьні незалежнасьці каляніяльным краінам і народам. За мінулы час нацыянальна- вызваленчы рух атрымаў новыя вялікія посьпехі, асабліва ў Афрыцы. Ад былых вялізарных каляніяльных імпэрыяў засталіся толькі асколкі... Аднак ААН не павінна аслабляць сваіх намаганьняў у змаганьні з каляніялізмам, пакуль на зямлі не застанецца ні аднэй калёніі, ні аднаго заняволенага калянізатарамі народу. Цяперашняя сэсія павінна прыняць рашэньні, якія на справе дапамаглі-б народам, што вядуць гераічную барацьбу за сваё вызваленьне, канчаткова разарваць іржавыя ланцугі прыгнечаньня й залежнасьці. Ад імя дэлегацыі Беларускай ССР я заяўляю, што мы будзем паранейшаму рашучыя й бескампрамісовыя, пакуль свабода й незалежнасьць ня стануць трывалым здабыткам народаў Анголі, Мазамбіку, гэтак званай партугальскай Гвінэі, Паўднёвай Радэзіі, Паўднёва-Заходняй Афрыкі, Аману, Адэну і іншых». Тут Кісялёў сказаў шмат праўды: што ад былых заходніх каляніяльных імпэрыяў засталіся толькі асколкі, што ААН павінна змагацца, каб не засталося ніводнага паняволенага народу. Але ці каляніяльная залежнасьць — зьявішча характэрнае толькі Захаду? Ці ў Савецкім Саюзе ўсе народы сапраўды сувэрэнныя й незалежныя? Гэтыя пытаньні Кісялёў абыйшоў маўчаньнем. Затое ён працягваў: «Каляніялізам усё яшчэ жывы й зьяўляецца сур'ёзнай небясьпекай для народаў. Ён прыбіраецца ў новае адзеньне, выкарыстоўвае больш вытанчаныя формы заняволеньня й залежнасьці, звычайна называныя нэакаляніялізмам. Нэакалянізатары імкнуцца да таго, каб незалежнасьць краінаў мела толькі фармальны характар, для чаго яны ўтрымліваюць у саіх руках ключавыя пазыцыі гэтых краінаў, аблытваюць іх нераўнапраўнымі пагадненьнямі, ваеннымі базамі й сваёй агентурай ўва ўрадавыя апараце».

«Нэакаляніялістыя імкнуцца да таго, каб незалежнасьць мела **фармальны** характар», яны трымаюць ключавыя пазыцыі ў эканоміцы падпарадкаваных ім краінаў... А ці-ж незалежнасьць рэпрэзэнтаванай Кісялёвам БССР ня мае толькі «фармальны характар»? А аб чым сьветчыць, напрыклад, праведзеная нядаўна рэарганізацыя савецкай прамысловасьці? Ці-ж гэта ня была ўзмоцненая канцэнтрацыя «усіх ключавых пазыцыяў у эканоміцы» падсавецкіх народаў у руках Масквы? Ці гаспадарчыя дачыненьні ўнутры СССР, дзе ўсе важнейшыя натуральныя багацьці, прамысловыя прадпрыемствы і ўвесь нацыянальны прыбытак знаходзіцца ў выключным распараджаньні маскоўскага цэнтру, — ці гэтыя дачыненьні маюць нешта супольнае з раўнапраўнымі пагадненьнямі паміж саюзнымі рэспублікамі? Ці-ж, урэшце, савецкія органы бясьпекі не зьяўляюцца ў руках імпэрыялістычнай Масквы ейнай агентурай у дзяржаўных апаратах рэспублікаў?

Але паслухаем, што далей гаварыў Кісялёў на сэсіі ААН у Нью Ёрку.

«Беларуская дэлегацыя станоўча ацэньваючы работу Камітэту 24-х, які займаўся распрацоўкай рэкамэндацыяў у справе прызнаньня незалежнасьці, разам з тым лічыць, што гэты камітэт **яшчэ ня выканаў да канца свайго заданьня** па віне сілаў, якія супраціўляюцца дэкалянізацыі. Заданьне палягае ў тым, каб зламаць цяпер супраціўленьне гэтых сілаў, да канца ажыцьцявіць наш абавязак перад народамі».

Зусім правільна. ААН шмат зрабіла дзеля ліквідацыі імпэрыяў. І слушна ўважае Кісялёў, што ААН яшчэ ня выканала «да канца свайго заданьня», бо існуюць яшчэ дзьве вялізарныя імпэрыі — савецкая й кітайская – якія не пайшлі за заклікам ААН. У гэтых імпэрыях сапраўды дзеюць сілы, якія супраціўляюцца дэкалянізацыі і Кісялёў — хоча ён гэтага ці ня хоча — гэтыя сілы сам падтрымоўвае — прынамся фармальна. Не зважаючы на гэта, ён заяўляў перад ААН:

«Час каляніялізму прабіў ужо, і ні грубая сіла, ні вытанчаныя хітрыкі не дапамогуць калянізатарам. Нацыянальна-вызваленчы рух неадольны, і ніякія сілы ня змогуць яго спыніць або павярнуць назад. Аднак перамога ня прыходзіць сама сабой. Неабходна мацаваць адзінства антыкаляніяльнага, антыімпэрыялістычнага фронту на базе барацьбы за мір, бясьпеку, справядлівасьць і прагрэс, больш рашуча выступаць супраць усіх формаў дыскрымінацыі, дзе-б і ў якіх-бы формах яна ні праяўлялася...»

Так. Час каляніялізму адыходзіць у мінулае. На Захадзе разваліліся ўжо ўсе каляніяльныя імпэрыі. Адсталыя народы Афрыкі, якія ніколі ў гісторыі ня мелі свае дзяржаўнасьці, атрымліваюць яе цяпер без асаблівых высілкаў. Гэтак званыя заходнія імпэрыялістыя выявілі вялікую дозу гуманнасьці і зразуменьня вымогаў нашае эпохі. Яны пайшлі ў нагу з часам.

А як стаіць справа з камуністычнымі імпэрыямі? Кісялёва цьверджаньне, што «нацыянальна-вызваленчы рух неадольны, і ніякія сілы ня змогуць яго спыніць або павярнуць назад», павярджаецца і на прыкладзе савецкае імпэрыі. Народы Ўсходняй Эўропы з кожным днём усё мацней адчуваюць сябе гаспадарамі ў сваіх краінах. Народы Савецкага Саюзу ўсімі магчымымі спосабамі даюць знаць, што яны таксама хочуць карыстацца тымі-ж правамі, якімі карыстаюцца свабодныя й незалежныя дзяржавы. Народы СССР не дамагаюцца нечага нязвычайнага. На працягу свае гісторыі яны даказалі, што ўмеюць жыць свабодным незалежным жыцьцём. Тое, што народы СССР не належаць яшчэ да сям'і свабодных народаў, сьветчыць, што ў камуністычным цэнтры – Крамлі — умацаваліся сілы, якія намагаюцца спыніць кола гісторыі. Нельга не пагадзіцца з Кісялёвам, што...

«Неабходна зрабіць практычныя **высн**авы з прызнаньня законнасьці намаганьняў прыгнечаных народаў, якія выступаюць за сваю свабоду й незалежнасьць; дзеля посьпеху нашых агульных мэтаў мы павінны паранейшаму праяўляць цьвярозасьць і ўлічваць рэальнае становішча .што складаецца на тым ці іншым этапе гістарычнага разьвіцьця».

У некамуністычным сьвеце **ўжо зробленыя** практычныя выснавы з прызнаньнем законнасьці любых намаганьняў прыгнечаных народаў, якія выступаюць з асваю свабоду й незалежнасьць. Тут улічваецца «рэальнае становішча», што склалася на гэтым этапе гістарычнага разьвіцьця. А калі-ж камуністычныя лідары ўлічаць дамаганьні прыгнечаных імі народаў СССР? Калі-ж яны зразумеюць «рэальнасьць становішча»?

Кісялёў заяўляе:

«Дэлегацыя Беларуская ССР заўсёды выступала й выступае цяпер за любыя эфэктоўныя меры супраць калянізатараў, на карысьць сувэрэннага права народаў на самастойнае палітычнае й эканамічнае разьвіцьцё».

Вельмі добра. Гэтае пытаньне не павінна зыходзіць з парадку дня, пакуль «сувэрэннае права народаў на самастойнае палітычнае й эканамічнае разьвіцьцё» ня будзе забясьпечанае на практыцы ўсім бяз вынятку народам. Але вельмі дрэнна, што дэлегацыя БССР у ААН, нават калі-б і хацела, ня можа паставіць на абмеркаваньне гэтага міжнароднага форуму лёсу народу, ад імя якога яна выступае. А яшчэ горш, што прадстаўнікі сапраўды вольных народаў спыняюцца на паўдарозе і, кіруючыся эгаістычнымі палітычнымі камбінацыямі, не жадаюць даводзіць распачатай гуманнай справы да канца.

Кісялёў заяўляе, што ён ня спыніць стаўляць свае дамаганьні.

А Захад?..

**А. Залескі**

# Перашкоды ў вывучэньні гісторыі Беларусі ў БССР

Пачнем з цытаты: «Дзіўна, але факт: да сяньняшняга дня цэлыя этапы гістарычнага мінулага беларускага народу застаюцца яшчэ ня вывучаныя. Белыя плямы ў беларускай савецкай гістарычнай навуцы трымаюцца занадта доўга. За час свае дзейнасьці выдавецтвы рэспублікі выпусьцілі ўсяго толькі чатыры невялікія манаграфіі на тэмы старажытнай і фэадальнай эпохаў. Бібліяграфічныя даведнікі па гісторыі Беларусі зьмяшчаюць невялікія нататкі, паведамленьні ў газэтах, часапісах, навуковых зборніках. Нават артыкулы, брашуры памерам на тры-пяць аркушаў — рэдкасьць.

Усё гэта ня можа не адбіцца і на разьвіцьці мастацкай літаратуры. Не выпадкова, што гістарычны раман — рэдкі госьць у беларускай прозе. Бяз творчага пошуку гісторыка літаратару таксама цяжка знайсьці жывую, непасрэдную крыніцу, якая паіла-б яго творчасьць.

Становішча ў гістарычнай навуцы рэспублікі было-б, вядома, іншае, каб выдавецтвы зацікавіліся тымі працамі, якія ўжо створаныя многімі дасьледнікамі.

Археалёгі Беларусі сабралі і часткова падагулілі вялікі матарыял. Гісторыкі паднялі і апрацавалі ў выглядзе манаграфіяў цэлыя пласты архіўных зьвестак. У выніку ў ,партфэлі' гістарычнай навукі БССР назапасілася каля двух дзесяткаў манаграфіяў аб мінуўшчыне нашага краю. Прынёсшы карысьць у якасьці кандыдацкіх і доктарскіх дысэртацыяў, яны так і ня ўбачылі жыцьця. Пра іх ніхто ня пісаў, наконт іх ня было спрэчак. А ў спрэчках і нараджаецца ісьціна гістарычнага працэсу. Хоць звычайна пры абароне дысэртацыі прымаецца пастанова аб рэкамэндацыі яе да друку, але і пасьля гэтага дысэртацыю здаюць звычайна не ў выдавецтва, а ў ... архіў рукапісаў інстытуту».

Гэта цытата з артыкулу Зіновія Капыскага — артыкулу, надрукаванага ў кастрычніцкім нумары савецкага беларускага літаратурнага часапісу «Полымя».

Зьдзіўленьне Капыскага абгрунтаванае. Цяжка сабе ўявіць, каб выдавецтвы якой-небудзь краіны адмаўляліся друкаваць працы зь гісторыі свайго народу. А ў Беларусі гэта робіцца ў той час, калі новыя працы на тэму мінуўшчыны нашай Бацькаўшчыны друкуюцца і ў Маскве, і ў Львове, і ў Польшчы. У Беларусі-ж каля двух дзесяткаў манаграфіяў беларускіх аўтараў на беларускую гістарычную тэматыку не знаходзяць доступу да шырэйшага кола чытачоў — пакрываюцца архіўным пылам.

Гэта ня толькі зьдзіўляе, але й абурае. Партыйная прапаганда бесперапынна цьвердзіць, што БССР – сувэрэнная нацыянальная рэспубліка беларускага народу. Здавалася-б, што ўлады гэтай рэспублікі павінны былі-б прысьвячаць належную ўвагу вывучэньню й папулярызацыі такой важнай справы, як гісторыя свайго краю.

Гісторыя Беларусі багатая й складаная. На няшчасьце, маскоўская акупацыя 18-19 стагодзьдзяў, забарона беларускай мовы й друку, ліквідацыя акупантамі беларускага школьніцтва ўсіх ступеняў, побач з агульным культурным заняпадам, падарвала й аб'ектыўнае вывучэньне гістарычнага працэсу Беларусі. Гісторыкі-чужынцы выкрыўлялі нашу гісторыю, як каму падабалася. Але гэта ня значыць, што для аб'ектыўных навуковых досьледаў няма цяпер адпаведных крыніцаў. У прыгаданым намі 10-ым нумары «Полымя» іншы аўтар — Сьцяпан Грабчыкаў — піша:

«У XIV-XVI стагодзьдзях старабеларуская мова была дзяржаўнай мовай Вялікага Княства Літоўскага. На гэтай мове за часы знаходжаньня Беларусі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, а затым Рэчы Паспалітай была створаная багацейшая літаратура самых розных жанраў. Па багацьці рукапіснага матарыялу старажытная беларуская пісьменнасьць ідзе ўсьлед за пісьменнасьцяй расейскага народу, якая прадстаўленая самай вялікай колькасьцяй помнікаў у старажытнай нацыянальна-пісьмовай прадукцыі ўсіх славянскіх народаў. Вядомыя рукапісныя беларускія помнікі (поўнасьцяй беларускія пісьмовыя помнікі далёка ня ўсе выяўленыя) перавышаюць сотню тысяч экзэмпляраў! Да ліку рукапісных помнікаў трэба дадаць яшчэ старадаўнія друкаваныя кнігі, паводля колькасьці якіх старажытная беларуская пісьменнасьць багацейшая і за расейскую».

Ведамыя рукапісы беларускія помнікі толькі чатырнаццатага-шаснаццатага стагодзьдзяў перавышаюць сто тысяч экзэмпляраў, а паводля колькасьці друкаваных кнігаў гэтага пэрыяду Беларусь стаіць на першым месцы ўва ўсім славянскім сьвеце. І гэта зусім натураль-

(Заканчэньне на 6-ай бач.)

позна ўжо. НКВД сьціснула ўжо зялезны абруч. І ты апынуўся ў ім. Але ня толькі ты адзін у ім. У гэтым абручы ўся Беларусь. Але ўся Беларусь ім не патрэбная. Навошта? Апрача твайго брата-студэнта, у ім апынуліся выкладчыкі, у тым ліку й твае, песьняры вашыя, акторы, мастакі, сьпевакі, калгасьнікі навет, і каго яшчэ не захапіў гэты абруч? Шырака хапянуў ён і цяпер паволі сьціскаецца й сьціскаецца. Будзь пэўны, выйсьця з гэтага абруча няма! У гэтым абручы і табе адведзеная роля. І ты граеш яе дасканала. Ты дайграўся ўжо — заўтра твой дзень, Ромусь. А хто-ж твой рэжысэр? Здагадайся сам. Я табе ўжо шмат чаго падказаў. У твайго рэжысэра і я на службе. Чаму гэта ўсё патрэбна? Спадзяюся-ж, маю службу ты зразумееш, як сьлед. Ты, канешне, замалады яшчэ. Вось чаму, паважаючы бацькоў тваіх, я вучу цябе.

Раман дакурыў і кінуў агарак на пдлогу. Хутка ён згас. Цямнота насунулася яшчэ больш. За хатаю шорхла ноч, стаяла па завугольлю, церлася аб сьцены, быццам прасілася нанач. Замоўк на часіну й Кандраценя і, як і Раман, слухаў за вокнамі ноч. Бы ў нейкай трывозе, сказаў:

— Так, гэта ноч. Але ня будзем гаварыць аб ночы. Ведаеш, калі цябе дапытвалі ў НКВД, я быў таксама там і бачыў цябе, але не хацеў табе паказвацца на вочы. Яны выклікалі цябе, каб паглядзець на цябе, які ты чалавек. Цябе адпусьцілі (я ведаў, што яны цябе адпусьцяць), а я застаўся яшчэ там і прасядзеў усю ноч навылёт. Тады я й даведаўся, якую махіну яны задумалі. Галоўны архітэктар гэтай махіны — Цімошка. Веры не даваў сабе, што ён будзе гаварыць так адкрыта —са мною, як з братам. Сядзіць Цімошка за сталом, дык галава ледзьве відна з-за стала, а мазгі мае, дармо што... Каб ты ведаў сваю ролю, гаворыць ён мне, мусіш ведаць, браце, усю драму і сцэну, на якой гэтая драма будзе пастаўленая: кажнае слоўка, усе хады й выхады. Тады-ж я прайшоў у яго й першую рэпэтыцыю. Патрабаваў, каб гра была артыстычнай і каб было поўнае суладзьдзе, а не абы што. Не адзін-жа ты, кажа, будзеш на сцэне... Дык вось, Ромусь, узяліся і за нас, лапцюжнікаў. Гісторыя загаворыць пра нас, ня будзе болей маўчаць. Дасюль мы хацелі будаваць самі Беларусь. Аж не... Дапамога патрэбная. Сілы ў нас свае мала. Трэба ўдарыць чалом перад панскай Польшчай. З яе дапамогай адчэпліваем Беларусь ад Расеі, але не для Польшчы, а для сябе саміх. Годзе ўжо нам быць то ў Польшчы, то ў Расеі. Цімошка клёку ў галаве мае досыць. Ён стварае для гэтай мэты нацыянальныя кадры, зганяе гэтыя кадры ў сваю арганізацыю-махіну і дае ёй назоў закансьпіраванай нацдэмаўскай партыі. Нацдэмы — гэта агентура польскай дэфэнзывы. Чытаў можа ў газэце? Вось для чаго ты, браце, хадзіў у Польшчу. Скажы, дрэнны з Цімошкі архітэктар? І вось уяві сабе такога памоцніка Цімошкі, як я! Я-ж хачу таксама, каб нешта было беларускае. Пакуль вы, беларусы, самі надумаецеся што-небудзь, дык Цімошка за вас хутчэй зробіць. І тут зусім я згодны з НКВД: нам трэба нацдэмаўская арганізацыя. І будзь упэўнены, НКВД яе згарусьціць. У гэтым, можна сказаць, гістарычная заслуга НКВД перад Беларусяй. Яно стаўляе беларускую праблему на парадак штодзённы і надае ёй дзяржаўнае значаньне. Цімошка, гавару, ня дурны чалавек. Самі-ж мы нічога ня можам справіць. А то, глядзі, і твая кватэра сталася штабам. І грошы тут, і зброя, і стратэгію во разьбіраем. Вось і пацягнуць усіх вас, і агалее ваша Беларусь. І яшчэ казаў Цімошка: бярэцца ў сілу фашызм і здань вайны матляецца недалёка ад нашых рубяжоў. І тады на каго, пытаўся у мяне Цімошка, абапрэцца фашызм? Канешне, на нацдэмаў. На Беларусі можа няма ніводнага нацдэма, але палітыка патрабуе іх. Вось Цімошка й бярэцца за гэта. Ён высака ўзьняў свой зялезны абруч над Беларусяй, над яе галавой, і ўжо няпрыкметна апусьціў яго. Застаецца толькі крэкнуць і косткі хруснуць. Беражыся, браце! Шкадую вас, птушанятаў. Цяжкая выпала мне доля, крыж пакутны. Узяўся несьці яго, дык вось і нясу. Стаў паміж імі і вамі, і ня ведаю, ці ўстаю. Я не баюся вас, а баюся іх. Я гавару во з табою пра ўсё — гэта мне дазволена, навет патрэбна, а зь імі гаворка кароткая. Уськінулі мяне на зубцы вялікага зялезнага махавіка, і круціць мяе той махавік аж пакуль ня скруціць. Шматкі майго цела ляцяць і душа пакутуе. Знайшлі мяне аж на мёрзлай поўначы і прывезьлі сюды во, у родныя мясьціны, на Бацькаўшчыну, па якой занудзіўся і вытрымаць ня мог. Лепшага чалавека ў іх, казалі, няма. Кажуць, мне ўсё даруецца, калі я нешта сьцяпаю для іх. Дык вось і цяпаю. Ня вельмі бліскуча, ды ўсё-ж... Я хацеў-бы, каб нешта з гэтага засталося й для нас, каб ахвяры не надарэмна прапалі. А што ахвяры будуць, дык гэта навет добра. Хутчэй насеньне прарасьце. У нас-жа ня было яшчэ вялікіх ахвяраў. У нас была толькі пакута. Ціхая пакута. А зь ціхай пакуты нічога ня выйдзе. Гэта пакута нявольнікаў. Нявольніцкія-ж ахвяры ня ў лік. Патрэбныя высокія ахвяры. Ты ўжо высокая ахвяра, Ромусь. Ты ў матку ўдаўся. Маці твая — чалавек шляхетнай крыві. Я рады, што ў цябе адызвалася гэтая кроў. Покуль што я нічога табе не скажу болей пра тваіх бацькоў...

Я даўно ведаю гэтыя абшары — Менскія, Віленскія, Слуцкія, Магілеўскія. Маладосьць мая пакінула сьляды й памяць на гэтых абшарах. Рэвалюцыя кідала мяне у самы вір жыцьця. Менск быў апошняй маёй авантурай, як назваў гэта Цімошка ў сваім досьледзе Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі. Але Цімошка, мусі, памыліўся. Вось ужо цяпер Менск — гэта хіба мая апошняя авантура запраўды... Ромусь, трэба канчаць ужо. Наслухаўся ты мяне досыць. Позна ўжо. Позна ўжо наагул. Ня бойся свайго дня, як не баяўся я. Я буду цябе наведваць і *там*. Ты ня згінеш. Ідзі *туды*. Бачыш, як я табе памагаю? Толькі йдзі на ўвесь рост! Не прысядай! Чуеш мяне? Нешта й духу твайго ня чуваць!

Раман Корзюк, як акамянелы, увесь гэты час стаяў ля вакна і слухаў Кандраценю, яго нязвычайную гаворку, споведзь і запавет. Кандраценеў напамінак аб маці засмуціў Рамана, яму стала вельмі шкада сваіх родных, што цяпер ня зь ім, недзе ў іншай краіне пакутуюць, наракаючы на сваю долю і вінавацячы у ваўсім яго. А ён таксама тут адзін цяпер сумуе па іх, хоць яны й ня ведаюць пра гэта. Думаюць, што ён усё такі-ж, як і быў, жыве сабе бястурботна й бадзяецца абы дзе. Яны таго ня ведаюць, што ён стаіць цяпер во ў пацёмках і душа яго заходзіцца па іх. Раман думаў, што каб яны былі цяпер на сваім хутары, яны чулі-б яго і яму было-б лягчэй, а так яны на тым баку і таму іх як-бы няма на сьвеце зусім. І што іх няма, у тым толькі ён адзін вінаваты. Каб ён не адводзіў іх туды, яны былі-б тут разам зь ім, і ён ня мусіў-бы слухаць во цяпер Кандраценю і не баяўся-б яго. Яму здалося, што на цэлым сьвеце ён застаўся толькі з адным Кандраценем, і што апрача яго, ў яго цяпер няма нікога. Адчуваньне было такое, быццам ён ехаў у акіяне на вялікім параплаве, на якім было многа пасажыраў, але параплаў гэты няўцям затануў,

# Інтэрв'ю з найнавейшым эмігрантам

У папярэднім нумары «Б-ны» мы зьмясьцілі першую частку інтэрвю'ю з найнавейшым эмігрантам з Беларусі. Гаворачы пра стаўленьне народу да партыйных і камсамольскіх арганізацыяў, наш суродзіч працягваў:

*

Сакратар кожнай камсамольскай арганізацыі прызначаецца звычайна загадчыкам клюбу і бібліятэкі і яму плацяць не паводля працадзён, а месячную стаўку. Аб гэтым ён найбольш і турбуецца, і робіць усё, каб застацца на займаным становішчы. З камсамольцаў калгасьнікі часта сьмяюцца і глядзяць на іх як на дзівакоў. На сяброў партыі глядзяць як на людзей, якія стараюцца мець лепшую працу і больш зарабляць. Партыйную арганізацыю разглядаюць як арганізацыю, што стаіць пры ўладзе і можа рабіць усё, ня лічачыся зь інтарэсамі народу.

**Пытаньне:** Як ставіцца народ да партыйнай прапаганды пра шчасьлівае жыцьцё пад савецкай уладай? Бярэ ён яе за чыстую манэту?

**Адказ:** Камуністычная прапаганда дзень і ноч крычыць, што савецкая сыстэма найлепшая ў сьвеце, што савецкія людзі жывуць найшчасьлівей. Але з прапагандыстых і лектараў, якія гэта гавораць, шмат простых людзей сьмяюцца зусім адкрыта, гаворачы, што гэтыя людзі страцілі ўсякі сорам і сумленьне. Пасьля сьмерці Сталіна ў Савецкі Саюз штора зболыш даходзіць вестак, як жывуць людзі ў іншых краінах.

**Пытаньне:** Што думае народ пра савецкую ўладу наагул: ці ўважае народ яе сваёй, народнай?

**Адказ:** Бальшыня звычайных людзей глядзіць на савецкую ўладу як на часовую, на ўладу, якая дбае толькі пра сябе, стараючыся ня бачыць, у якім цяжкім палажэньні жыве бальшыня народу, асабліва на вёсцы. Часта можна чуць як звычайныя людзі савецкую ўладу называюць уладай жулікаў і прайдзісьветаў. Я часта бачыў і чуў, як навет камсамольцы, вярнуўшыся пасьля арміі дадому ў калгас, абзавёўшыся сям'ёй, поўнасьцяй расчараваліся ў савецкай уладзе, зразумелі, што ня кожны можа быць старшынём калгасу ці сакратаром партарганізацыі. Заліўшы гора алькаголем, яны заяўлялі, што з савецкай уладай можна гаварыць толькі з аўтаматамі ў руках — інакш яна не разумее.

**Пытаньне:** Савецкая прэса шмат піша пра нябывалы культурны й тэхнічны прагрэс на Беларусі: пра мэханізацыю сельскай гаспадаркі, электрафікацыю й радыяфікацыю ня толькі гарадоў, але й сельскай мясцовасьці, пра высокі ўзровень культурнага абслугоўваньня (шырокую сетку клюбаў, дамоў культуры, кінатэатраў). Колькі ў гэтым праўды?

**Адказ:** Тэхніка ёсьць, бязумоўна, у кожным калгасе і саўгасе Беларусі. Кожны калгас ці саўгас мае ў сярэднім 3-6 трактараў, 5-10 грузавых аўтамашынаў, 6-8 жняярак, 1-2 камбайны, 1 малатарню, 2 сіласарэзкі, 1 кузьню, 2-3 бульбакапалкі, 4 сеялкі. Круглы год усе тэхнічныя агрэгаты стаяць у бальшыні выпадкаў над адкрытым небам. Сеялкі, жняяркі, бароны, сіласарэзкі, прастаяўшы зіму пад адкрытым небам, трацяць да 40 працэнтаў свае вартасьці. Дзеці часта адшрубоўваюць ад іх асобныя дэталі і здаюць у сельпо як мэталялом. Кажны мэханізатар, страціўшы ці паламаўшы якую-небудзь дэталь, бярэ яе зь іншай машыны, на якой зь нейкай прычыны не працуюць. І калі трэба пачынаць пасяўную кампанію ці збор ураджю, дык выяўляецца, што на шматлікіх агрэгатах нельга працаваць з прычыны няспраўнасьці ці адсутнасьці дэталяў. Звычайна з калгасу ў сьпешным парадку пасылаюць пасланцоў па запасныя часткі ў гарады, дзе таксама не заўсёды можна іх атрымаць.

Дарогі ў бальшыні калгасаў вельмі дрэнныя, асабліва вясной і ўвосень. Шофэры і мэханізатары, як кажуць, мучаць і нішчаць і сябе і тэхніку. Часам днямі нельга даехаць у горад на аўтамабілі. Нават па калгасным двары вельмі цяжка праехаць на аўтамабілі. У такіх умовах мэханізацыя сябе не апраўдвае.

У бальшыні калгасаў Беларусі пераважная частка працаў робіцца ўручную або тэй тэхнікай, якой карысталіся нашы дзяды і прадзеды. Аруць трактарамі, але аруць таксама коньмі й валамі. Там, дзе аруць коньмі й валамі ўраджай значна лепшы, таму што з коньмі й валамі нельга рабіць тых камбінацыяў, якія робяць трактарыстыя. Кожны трактарысты арэ паводля нормаў і стараецца зрабіць больш нормаў і хутчэй. Для гэтага ён ставіць шырыню захопу кожнага плуга на паўтара раза шырэй, чымся пры нармальным араньні. Пласты зямлі добра не пераварочваецца і глыбіня ўзорваньня неаднолькавая. Барануюць гэтак сама: дзе трэба прайсьці тры разы, праходзяць раз, а то й ніразу. Або з бакоў забарануюць, там дзе бачыць начальства, а сярэдзіна застаецца някранутай ці толькі кранутай. Таму ў некаторых калгасах ураджай застаецца на полі, гэта значыць яго ня зьбіраюць, бо амаль нічога ня выростае.

Сена косяць пераважна косамі.

Электрыфікацыя... Шмат калгасаў зусім не электрыфікаваныя. Калгасьнікі карыстаюцца газавымі лямпамі. У калгасах электрыфікаваных напружаньне току такое слабое, што так ці йнакш трэба мець у хаце газавую лямпу. Ня дай Бог, калі калгас мае сваю электрастанцыю або нейкую ўстаноўку, што выпрацоўвае электраэнэргію. Тады здараецца так, што гэтая ўстаноўка тыдзень працуе, а тыдзень не. Калі калгас атрымлівае энэргію зь дзяржайнай электрастанцыі — гэта значна лепш і для калгасу і для калгасьнікаў, бо ёсьць больш шансаў мець сьвятло.

Больш рэгулярна працуюць радыякропкі. Праўда, радыстыя ставяць пераважна на Маскву і вельмі рэдка можна тут слухаць перадачы зь Менску ці абласных радыястанцыяў Беларусі (так вымагае начальства). Радыякропка лепш працуе з дзьвюх прычынаў: яе лёгка абслугоўвае адзін чалавек і насельніцтва трэба за ўсякую цану выхоўваць...

Аб кінатэатрах і клюбах я ўжо гаварыў раней.

**Пытаньне:** Як выглядае справа школьніцтва на Беларусі? Ці ўся моладзь школьнага веку наведвае школы?

**Адказ:** Я думаю, што пачатковую школу наведвае ў Беларусі каля 97 працэнтаў дзяцей школьнага веку.

**Пытаньне:** Зь якой мовай навучаньня (беларускай ці расейскай) пераважаюць школы ў тых мясцовасьцях, якія Вы ведаеце?

**Адказ:** У сельскай мясцовасьці пераважаюць беларускія школы, у гарадох — расейскія.

**Пытаньне:** Чым вы тлумачыце вялікі працэнт школаў з расейскай мовай навучаньня?

**Адказ:** Гэта робіцца дзеля таго, каб паступова зьнішчыць беларускую мову, замяніўшы яе расейскай. У тэорыі ў Савецкім Саюзе ўсе мовы, народы, рэспублікі роўныя, але на практыцы гэта далёка ня так. Калі ў Савецкім Саюзе нехта хоча зрабіць сабе кар'еру, ён мусіць ведаць расейскую мову. Вялікую русыфікатарскую ролю адыгрывае савецкая армія. Ніжэйшы і вышэйшы каманднасклад. які складаецца пераважна з Расейцаў, чамусьці ўважае, што ў арміі ўсе павінны гаварыць толькі парасейску. Калі, напрыклад, Беларусі не гавораць чыстай расейскай мовай, яго перадражніваюць, уважаюць за невука й тупіцу. Гэта вельмі крыўдзіць жаўнераў нерасейскай нацыянальнасьці.

**Пытаньне:** Ці лёгка ўступіць у вышэйшую навучальную ўстанову? Ці можа кожны, хто жадае, вучыцца в ВНУ?

**Адказ:** Уступіць у вышэйшую навучальную ўстанову на паперы кожны мае аднолькавыя правы й магчымасьці, але на справе далёка не заўсёды так. Вялікую ролю адыгрывае матарыяльнае палажэньне бацькоў — ці могуць бацькі памагаць сваім дзецям, якія хочуць паступіць у ВНУ. Калі бацькі студэнта калгасьнікі, ён пры выдатнай пасьпяховасьці можа атрымаць стыпэндыю, але гэтай стыпэндыі не стае на палавіну ягоных патрэбаў. Вельмі мала ёсьць вышэйшых навучальных установаў, якія маюць інтэрнаты, а сьціплы пакой у горадзе каштуе 20-25 рублёў. Трэба-ж лепш апрануцца, як ў калгасе. Я шмат ведаў хлопцаў, якія хацелі ўступіць ня ў вышэйшую, а ў няпоўна-вышэшую школу, але й гэта было зрабіць ня лёгка. Вось што расказаў мне адзін зь іх, які паходзіў з Віцебшчыны: Пасьля заканчэньня сярэдняй школы ён паехаў у Ленінград, каб паступіць у вышэйшую школу. Прыехаў ён туды з маленькім чамаданчыкам і зь невялікім запасам грошы. Паводля конкурсу, было па чатырох чалавек на адно месца. Былі й такія, што прыехалі з папам або мамай на ўласнай аўтамашыне і, зразумела, ня з сотнай рублёў у кішэні, а з пару тысячамі. Ня гледзячы на тое, што ён лепш здаў экзаміны за тых, што прыехалі з багатымі бацькамі, ён ня меў досыць грошаў, каб падмазаць там, дзе трэба. Таму й вярнуўся ў свой калгас. А такіх выпадкаў – колькі хочаце.

Найлягчэй уступіць у сельскагаспадарчыя й вайсковыя школы, але туды менш ахвотнікаў.

**Пытаньне:** Шмат чуваць пра тое, што моладзь уцякае зь вёсак у гарады. Якія прычыны гэтага?

**Адказ:** Жывучы ў вёсцы, моладзь ведае, што яе ў будучыні чакае такі-ж незайздросны лёс, як і ейных бацькоў. Найбольш уцякае зь вёсак маладых хлапцоў. Шмат зь іх, адслужыўшы ў арміі, не варочаюцца ў родныя мясьціны, калі ўдаецца ўладзіцца на навуку. Закончыўшы школу, застаюцца жыць і працаваць у гарадох. Але такія магчымасьці не вялікія. Найчасьцей моладзь стараецца атрымаць пашпарт і прыпісацца на сталае жыцьцё ў горадзе, уладзіўшыся на працу на фабрыках ці заводах. Але й гэта з кожным годам рабіць штораз цяжэй, бо дэмабілізаваных пасылаюць з вайсковых частак у тыя ваенкаматы, адкуль яны былі пакліканыя ў армію.

Для маладых дзяўчат трапіць зь вёскі на сталае жыцьцё ў горад яшчэ цяжэй, як хлопцам. Хіба што ўдасца паехаць у горад на навуку, пасьля заканчэньня школы атрымаць пашпарт і застацца ў горадзе, бо ў вёсцы вельмі цяжка атрымаць ад мясцовых уладаў права на выезд і пасяленьне ў горадзе. Таму жанчын у беларускіх вёсках 5-10 разоў больш, як мужчын.

**Пытаньне:** Мінулае дзесяцігодзьдзе, у сувязі з кампаніяй асваеньня цалінных земляў Сібіру й Казахстану, шмат моладзі й цэлых сем'яў зь Беларусі было перавезена на сталае пасяленьне за Ўрал. Што сталася з гэтымі людзьмі?

**Адказ:** Шмат сем'яў завербаваліся на перасяленьне ў Сьвярдлоўскую, Малатаўскую і іншыя вобласьці й краі. Пражыўшы там 1-3 гады, бальшыня зь іх вярнулася на бацькаўшчыну. Вярнуліся з розных прычынаў: із-за суровасьці клімату, неабжытасьці месца. Галоўная прычына, аднак, палягала ў тым, што вярбоўшчыкі проста іх ашукалі, абяцаючы лепшае жыцьцё на новым месцы. Кожны вярбоўшчык атрымлівае за завербаванага чалавека 2 рублі 50 капеек (новымі грашыма).

У Сібір звычайна вярбуюць на лесанарыхтоўкі. Калі ў сям'і працаздольны толькі адзін чалавёк, ён атрымлівае ў сярэднім 120 рублёў у месяц за 10-12 гадзін працы ў суткі. Сям'я жыве ў скалочаным на хуткую руку бараку і за запрацаваныя грошы мусіць пракарміцца і апранацца.

Бальшыня завербаваных варочаецца назад, кажучы, што ў Беларусі хоць і цяжэй у амтарыяльным дачыненьні, за гэта жывеш сярод свайго народу, а на вярбоўцы таксама няма жыцьця. Іншыя вярбуюцца па два-тры разы: спачатку едуць на Ўрал, пасьля паслухаюць агітатараў, што на цаліне лепш, едуць на цаліну. А там ваду трэба вазіць з адлегласьці 200-300 кілямэтраў — у некаторых пасёлках днямі ня бывае вады. Таму й на цаліне мала хто застаецца на сталае жыцьцё.

На цалінныя землі ехала штогоду шмат моладзі, але ня зь нейкіх патрыятычных пачуцьцяў, як цьвердзілі камуністыя, а каб палепшыць сваё матарыяльнае палажэньне. Тое самае было з выездамі на сібірскія будоўлі. У першыя гады асваеньня цалінных земляў тэхніка была новая, было лепшае забясьпечаньне й лепшая аплата. Таму некаторыя маладыя людзі, пасьля сканчэньня тэхнічных школаў, ехалі туды й працавалі па 2-3 гады, але мала хто заставаўся жыць на стала. Ужо ў 1963 годзе вельмі мала знаходзілася маладых людзей, згодных ехаць на цаліну. Дый цаліна з кожным годам дае штораз горшыя ўраджаі і часта вялікія плошчы пасеваў ня зьбіраюць, бо не аплачваецца.

**Пытаньне:** У першыя пасьляваенныя гады шмат людзей на Беларусі было арыштавана й дэпартавана ў савецкія канцэнтрацыйныя лягеры. Арыштоўвалі й вывозілі гэтак званых «кулакоў», былых савецкіх жаўнераў, якія трапілі ў нямецкі палон, людзей, якія дабраахвотна або прымусова працавалі ў Нямеччыне, а таксама гэтак званыя супрацоўнікаў зь нямецкімі акупацыйнымі ўладамі на Беларусі. Што сталася з гэтымі людзьмі?

**Адказ:** Бальшыня «раскулачаных» была вывезеная ў Сібір або Казахстан, дзе яны жывуць і да гэтага часу (гэта тыя, што былі вывезеныя зь сем'ямі). Адзінокіх звычайна засуджвалі на 20-25 год зьняволеньня ў канцлягерах. Пасьля амнэстыі іх звальнялі. Яны вярнуліся дадому настолькі хворымі, што пасьля году-паўтара паміралі. Былым нямецкім ваеннапалонным, тым, хто служыў у нямецкай паліцыі і іншым «супрацоўнікам» нямецкіх акупацыйных уладаў, а таксама дызэртырам з савецкай арміі давалі па 20-25 год (без высяленьня сем'яў). Пасьля амнэстыі ці залікаў (залік — гэта, калі вязень концлягеру добра працуе, яму залічаюць два-тры дні за адзін і адпаведна скарачаюць тэрмін зьняволеньня) іх таксама звальнялі. Але бальшыня вязняў памерла ў турмах і лягерах. Частцы вызваленых яшчэ і ў 1963 годзе не дазвалялі вярнуцца ў родныя мясьціны: жывуць яны як «вольныя пасяленцы» на Варкуце, Камчатцы, Сахаліне, цалінных землях і ў іншых раёнах Сібіру й Казахстану. Тыя, каму ўдавалася ўратавацца ад рэпрэсіяў у першыя пасьляваенныя гады, перасьледваліся пазьней. Дастаткова двух сьветкаў, каб на аснове іхных слоўных сьветчаньняў абвінаваціць і засудзіць часам зусім нявінаватага чалавека на розныя тэрміны зьняволеньня і цяпер.

**Пытаньне:** Што думае народ пра сваю будучыню? Ці ён думае зьмірыцца з савецкай сыстэмай, ці спадзяецца паступовай лібэралізацыі гэтай сыстэмы, ці чакае якіх-небудзь больш раптоўных зьменаў, напрыклад, вызваленьня ўласнымі сіламі або пры дапамозе звонку?

**Адказ:** Ёсьць розныя людзі: адны думаюць, што жыцьцё і ўсё іншае паступова палепшыцца, бо апошнімі гадамі адбыліся маленькія зрухі. Іншыя думаюць, што зьмены могуць адбыцца толькі ў выніку вайны і што ўсе дасюлешнія зьмены на лепшае, гэта толькі ашуканчая тактыка камуністых, бо зьмены гэтыя вельмі нязначныя. Бальшыня звычайных людзей спадзяецца на дапамогу нейкай моцнай дзяржавы, што мае моцную армію і высокую тэхніку.

---

і з усіх пасажыраў, якія былі на гэтым параплаве, у жывых застаўся толькі ён адзін з Кандраценем, і вось цяпер знаходзіцца зь ім у вадным цесным труме на самым дне акіяну.

— Што-ж ты маўчыш, Ромусь?

Раман Корзюк нічога не адказваў Кандраценю.

Заскрыпелі палавіцы на кухні, і ў дзьверы, што вялі туды з Раманавага пакою, пастукалася, як трэба было думаць, гаспадыня. І запраўды, увайшла гаспадыня зь лямпай у руках. Ад нечаканага сьвятла Кандраценя зажмурыўся за сталом, а Раман падыйшоў да гаспадыні і, узяўшы ў яе з рук лямпу, паставіў на маленькі зэдлік у кутку. Раман быў рады гаспадынінаму прыходу і, бяручы ў яе лямпу, хацеў гэтым затрымаць яе надаўжэй.

Генадзь Кандраценя хуценька падняўся з-за стала і стаяў, усьміхаючыся й чакаючы, пакуль Раман не пазнаёміць яго з гаспадыняй. Але Корзюк не прыкмячаў гэтага. Тады Кандраценя фанабэрыста сам паюыйшоў да гаспадыні і прывітаўся зь ёю, пацалаваўшы ёй руку. Але прозьвішча свайго не назваў. Гаспадыня на момант зьбянтэжылася, але хутка знайшла што сказаць:

У цябе, — зьвярнулася яна да Рамана, — няма пасьцелі для гасьця, дык я прынясу і пасьцялю во тут на гэтым дыванчыку, хай нам даруе госьць.

Раман, канеше, добра ведаў, што на самай справе гаспадыня прыйшла да яго, каб пабачыць Кандраценю.

— Дзякую, дзякую, на жаль, мне трэба йсьці ўжо і так заседзеўся позна, — сказаў Кандраценя такім тонам, які не дапушчаў угавору.

Гаспадыня пастаяла яшчэ з хвіліну, сказала дабранач і, акінуўшы вачыма падазронага наведальніка, пайшла назад у кухню.

Кандраценя запраўды хутка пакіуў Рамана Корзюка, адзінотнага й распачлівага ў сваіх думках.

### 22.

Інстытут высыпаўся на двор Унівэрсытэцкага Гарадка і станавіўся ў чацьвёркі. Але гэтыя чацьвёркі фармаваліся не адразу, марудна й неахвотна. Пагода была халаднаватая і ніхто не сьпяшаўся вылазіць з Галоўнага корпусу. А тыя, што ўжо стаялі ў чацьвёрках, бачачы такую замаруджанасьць, разыходзіліся і праціскаліся назад у будынак. Асабліва зяблі студэнткі. Выкладчыкі стаялі за шырокімі дзьвярыма ў сярэдзіне і назіралі адтуль за ўсім: яны чакалі, пакуль не зарганізуецца інстытуцкая калёна. Аркестра вучылася яшчэ ў падвале, і адтуль даносіліся такія галасы, быццам каго там рэзалі, катавалі ці зьдзекваліся. Плякаты, партрэты, транспарэнты і сьцягі былі ўжо вынесеныя і стаялі каля ўваходу, але тым часам ніхто іх не разьбіраў. Каля іх круціўся толькі Сьцяпан Мялешка і нешта меркаваў. Парадку ня было. Натоўп гудзеў на розны галасы, сьмяяўся, гаварыў, грэўся і быццам адцягваў арганізаванае выступленьне з Гарадка. Па Савецкай даўно ўжо ішлі дэманстранты з музыкай, песьнямі і калыхлівым бязладзьдзем сьцягоў, плякатаў, партрэтаў. Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт і Мэдінстытут ужо вырушылі, абыходзячы з правага боку пэдінстытут, сьмяючыся і жартуючы з ягонай няўпраўнасьці. Але вось падаў каманду загадчык Ваеннай катэдры станавіцца ў чацьвёркі. Дзесьці ў натоўпе зарагаталі і голас загадчыка катэдры — ня дужа моцны — прапаў у тлуме, сквілу і гомане. Загадчык узьняў свой голас яшчэ, але натоўп застаўся натоўпам. Тады ён пачаў хадзіць узад і ўперад, стаўляючы сам першыя чацьвёркі, пераважна з дзяўчат, як больш паслухмянага элемэнту. У дадатак нейчы звонкі голас з натоўпу жартліва крыкнуў сваю каманду і толькі па гэтай камандзе заварушыліся студэнты, становячыся падкрэсьлена павайсковаму ў шэрагі. Так пакрысе пачала вызначацца калёна. Падыйшлі й іншыя падпіхачы — сакратары, выкладчыкі фізкультуры, адказныя за арганізацыю кастрычніцкай маніфэстацыі, і актывістыя. Натоўп як растаў. Замест яго вырасла на ўсю сваю даўжыню калёна й застыла ў маўкліні. Толькі зрэдку перабягалі з аднае чацьвёркі ў другую дзяўчаты, шукаючы зацішных хлапцоўскіх плячэй. Іхныя касынкі матляліся на ветры й гарэлі аганькамі. Нарэшце, выйшлі з-за шкляных дзьвярэй выкладчыкі і сталі ў галаве калёны. Усё агалела. Толькі на сходках усё яшчэ сьпісваў з натуры і завяршаў свой твор студэнт Мень. Натурай быў Раман Корзюк. Ён стаяў у нейкай трагічнай позе і нікуды не глядзеў, застыгшы як помнік на ўвесь свой рост, быццам тое, што адбывалася на двары было для яго толькі фонам. А Мень, Раманаў аднакурсьнік, раз-по-разу кідаў на яго то адным, то другім прыжмураным вокам і ўсё накідваў Рамана на паперу. Мень доўга ганяўся за Раманам, як за мадэляй, і сягоньня ён прост сілком затрымаў яго на сходках на тэй вышыні, на якой ён здаўся яму нязвычайным і манумэнтальным перад натоўпам унізе. Так зарадзілася кампазыцыя твору ў мастака Меня. І Раман Корзюк гатовы быў служыць яму сваёй постацяй. Дзічкоўская і Лагоўская з калёны любаваліся экстравагантнасьцяй гэтага мамэнту. Але хутка ўзабраўся на сходкі Мялешка і сьпёр іх далоў. Пачалі раздаваць сьвяточны матэрыял — партрэты, сьцягі, плякаты, транспарэнты, каб усё гэта ўзьнялося ўгору й пайшло.

Корзюк стаў ў чацьвёрку, недзе ў сярэдзіне калёны, але загадчык ваеннай катэдры інстытуту перагнаў яго наперад, як рослага. Дзічкоўская пабегла за ім і стала ў ваднэй зь ім чацьвёрцы, нясучы Кагановіча.

Вецер узьнімаўся мацнейшы. У вышыні і на даляглядзе ён шпарка гнаў парваныя хмары на ўсход, і яны, як ільдзіны ў моры, імкліва плылі, засланяючы і закрываючы блакітна-сінія вокны ў глыбокім небе. Стаяў халодны восеньскі дзень. Ад холаду людзі зызлі. З іхных рук вецер вырываў сьцягі, плякаты, партрэты, тузаў і рваў іх. Таму ніхто нічога не хацеў несьці, хоць і трэба было. Мялешка з загадчыкам катэдры і таварышом сакратаром партарганізацыі раздалі ўжо шмат сьвяточнага матэрыялу, але шмат яго яшчэ заставалася. Трэба абавязкава было ўсталіць у галаве калёны самы вялікі партрэт Сталіна. Партрэтаў Сталіна было ўжо поўна па ўсёй калёне, але ў Мялешкі быў свой плян: каб усіх маленькіх сталінаў ззаду засланяў вялікі Сталін наперадзе. У галаве калёны кажны ўжо што-небудзь трымаў, апрача Корзюка, і Мялешка наважыў аддаць вялікага Сталіна яму. Сьцяпан Мялешка паднёс партрэт да Рамана і папрасіў узяць яго. Але Раман як трымаў свае рукі ў кішанёх, так і заставаўся, спакойна й холадна гледзячы на Мялешку. Мялешка паставіў партрэт цалём на зямлю.

— Ня хочаш?

— Не хачу!

— Тады выйдзі з калёны!

— Не, я ня выйду. Я пайду разом з усімі. Ты мяне сюды ня ставіў.

# Пытаньне савецкага «правасудзьдзя»

За пасьлясталінскі пэрыяд у СССР шмат гаварылася пра патрэбу ўмацаваньня гэтак званай савецкай «сацыялістычнай законнасьці». Але факты самаволі з боку пракуратуры й судовых органаў існуюць і далей, і трывожаць падсавецкую грамадзкасьць.

Савецкая мастацкая літаратура таксама прысьвячае гэтаму пытаньню вялікую ўвагу. У **беларускай** літаратуры апошняга пэрыяду трэба адзначыць аповесьць «Мост» Івана Шамякіна і раман Івана Мележа «Подых навальніцы».

У рамане «Подых навальніцы» Івана Мележа апісваюцца падзеі на Беларусі 30-ых гадоў: пэрыяд калектывізацыі, чысткі праводжаныя ў шэрагах кампартыі, у дзяржаўным апараце БССР, у беларускіх пісьменьніцкіх аргнізацыях, у навуковых навучльных і культурных установах. Галоўныя героі ў рамане Івана Мележа — гэта партыйцы, але беларусы з паходжаньня, людзі, якім не абыякавае дабро свайго народу, якія не разумеюць, чаму «прыстасаванец з душой сьлізня іншы раз больш да спадобы» тым, што на вярхох, «чымся характар сумленны, надзейны, але неспакойны». Гэтыя сумленныя людзі, на загад зьверху, спэцыяльнымі партыйнымі ўпаўнаважанымі абвінавачваюцца ў няпрынцыповасьці, у адсутнасьці ў іх гэтак званай клясавай пільнасьці. Яны — гэтыя абвінавачаныя – пазбаўленыя права абараняцца. Ворагамі народу абвяшчаюцца нават тыя пабочныя асобы, што адважваюцца выказаць сумлеў у правільнасьці стаўляных цэнтрам закідаў. Рысуецца вобраз поўнай беззаконнасьці, якая сапраўды існавала ў тыя часы.

Іван Шамякін у сваёй аповесьці «Мост» апісвае палажэньне на беларускім Прыдняпроўі ў першыя гады пасьля Другой сусьветнай вайны, апісвае страшэнную галечу беларускай калгаснай вёскі і нічым не абмежаваны тэрор органаў дзяржаўнай бясьпекі, якія фабрыкавалі фальшывыя абвінавачаньні й прысуды, і перад якімі дрыжалі нават заслужаныя партыйцы. Але сваю аповесьць Шамякін канчае аптымістычна: працаўнікі дзяржаўнай бясьпекі, якія да гэтага часу стаялі **над** партыйнымі органамі, былі, маўляў, падпарадкаваныя партыйнаму кантролю. І так наступіла быццам шчасьлівая й канчатковая разьвязка трагедыі.

Але ўсім ведама, што частковае падпарадкаваньне сакрэтнай паліцыі партыйнаму апарату адбылося ня ў тым пэрыядзе, які апісваецца ў аповесьці Шамякіна, а дзесяць год пазьней. Гэтая падтасоўка падзеяў паказвае, што Шамякін пісаў сваю аповесьць ня будучы стопрацэнтна пераканаsuccessfully, што войстрае асуджэньне самаволі органаў дзяржаўнай бясьпекі знойдзе належнае ўхваленьне на цяперашніх партыйных вярхох. Элемэнт няпэўнасьці ў савецкую законнасьць тут зусім відавочны.

Зьяўленьне мастацкай літаратуры на тэму правасудзьдзя ў эпоху сталінізму — рэч, бясспрэчна, пазытыўная. Героі Івана Мележа, напрыклад, вядуць цікавыя разважаньні пра законнасьць і справядлівасьць, якія павінны былі-б легчы ў аснову грамадзкага парадку. Але ў савецкіх мастацкіх творах, як правіла, адсутнічаюць якія-небудзь **канкрэтныя прапановы** адносна таго, як ліквідаваць несправядлівасьць і стварыць умовы, якія гарантавалі-б, што такая несправядлівасьць больш ня зможа паўтарыцца. Героі гэтых твораў — самі ахвяры беззаконнасьці — уважаюць звычайна, што той стан, які існуе у мамэнт, калі аўтар піша свой твор, найбольш справядлівая разьвязка праблемы. Тлумачыцца гэта, ведама, у першую чаргу тым, што партыйная цэнзура сочыць, каб ідэя твораў не разьміналася з актуальнай палітыкай. У такіх умовах цяжка вінаваціць пісьменьнікаў за адсутнасьць у іхнай творчасьці канкрэтных канструктыўных думак. Але ў сваю чаргу, гэта азначае, што нельга бяскрытычна ўспрыймаць разьвязку канфліктаў, якую падказвае аўтар.

Іван Шамякін сваю цікавую аповесьць «Мост» канчае тым, што (як ужо адзначана раней), пасьля падпарадкаваньня органаў дзяржўанае бясьпекі волі партыйнага апарату, спынілася самаволя й беззаконнасьць і быў наладжаны правапарадак.

Але ці гэта так? Самаволя сьледчых, неаб'ектыўнасьць прысудаў савецкіх судоў яшчэ далёка не зьліквідаваныя. Аб гэтым зьяўляецца нямала паведамленьняў у савецкім друку. А гэта значыць, што з савецкім правасудзьдзем нешта не ў парадку. А што не ў парадку? Не ў парадку тое, што савецкая дзяржаўная сыстэма пазбаўляе савецкае судаўніцтва магчымасьці выносіць незалежныя аб'ектыўныя прысуды, кіруючыся справядлівымі законамі. Савецкае судаўніцтва не зьяўляецца незалежнай уладай, як гэта вымагае сапраўдная дэмакратыя. Гэта прылада ў руках партыі для ажыцьцяўленьня суб'ектыўнай волі партыі. Сапраўдны суд павінен быць незалежны ад іншых органаў улады. Гэты суд павінен мець права, калі гэта патрэбна, вынесьці пастанову і супраць ураду ці дзяржавы на карысьць грамадзяніна, як гэта бывае ў сапраўдных дэмакратыях.

У савецкіх-жа ўмовах судзьдзямі да гэтага часу маглі быць толькі партыйцы. І зусім зразумела, што пакуль будзе існаваць такое палажэньне, цяжка чакаць, каб савецкая сыстэма набыла рысы нейкай законнасьці, тым больш, што й савецкія законы не зьяўляюцца творам народнага прадстаўніцтва – парляманту, а партыйнымі дырэктывамі.

**Ю. Дубовік**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

# З падарожжа па Ангельшчыне

У прыгожую ангельскую восень мясцовы журналіст захапляў сваіх чытачоў «найпрыямнейшым кліматам» Вялікабрытаніі, дзе няма ні цяжкіх зімаў, ні гарачых летаў, а заўсёды восень або вясна... Мне не застаецца нічога іншага, як падпісацца пад гэтым, бо вось ужо шостыя мае адведзіны гэтай краіны «імглы» суправаджаліся радасным сонейкам, якое ўпрыгожвала кожны краявід, кожны куток. Але бываюць і цёмныя хмары: вялікія табуны дамарослых «бітэляў» далі сёлета вялізарны прырост у параўнаньні з 1963 годам. Асабліва Манчэстар цяжка перажывае гэтую «эпідэмію»...

У манчэстэрскім Беларускім доме вітаў мяне мой стары прыяцель Андрэй паводля ўсіх правілаў беларускай гасьціннасьці. Найшчырэйшыя яму дзякуй і прывітаньні! Спаткаліся потым і з Вінцэсям і з Адамам з паўночнай правінцыі, урэшце і з самым айцом, гаспадаром духоўным. Пасьля позьніх гутарак і начлегу на навасельлі, вырушылі з айцом у Брадфард. Па дарозе зьявілася цёплае восеньскае сонца, абяцаючы бліскучую пагоду і ў горадзе «сукна й свэтараў».

Нашай мэтай быў брадфардзкі Беларускі дом. У ім прывітала нас група прыяцеляў. Пасьпяшаліся ў капліцу, новую капліцу, высьвечаную настаяцелем у нядзелю 5-га верасьня пры шматлікім удзеле Беларусаў Вялікабрытаніі. Першае ўражаньне — гэта радасьць сонцам залітай капліцы, шмат большай у параўнаньні з былою. Другое — гэта эстэтычнае ўражаньне: колькі густу, стараньня й любові ў выкананьні ўсіх дэталяў! І, урэшце, — колькі ўложанага высілку й працы. Чую ведамыя прозьвішчы, але ўсе падчыркваюць найбольшую заслугу сп. Лемяшонка. Звычайна, калі турбуецца і пляную адзін, а іншыя дапамагаюць, справа ўдаецца. Удалася й праваслаўная капліца брадфардзкай белрускай калёніі. Яна наглядна сьветчыць пра высокія пачуцьці й намеры брадфардцаў. Высокая ім пахвала!

Спатканьне з Стасем прыгадала грымучыя часы «Равенсчыкаў» у Лювэне і ўсю лювэнскую грамаду. І цяпер Стась, пры чыннай падтрымцы сп. Янкі Калбасы, Сакратара Царкоўнае Рады БАПЦ, добра справіўся з хорам, што сьпяваў Літургію. У гэтую нядзелю прыпадала Эвангельле Лукі (V I-II) пра цудоўны ўлоў рыбы й пакліканьне вучняў Хрыстом, а ў парафіі — другая гадавіна сьвятарства настаяцеля. Мне было лёгка й прыемна навязаць эвангельскія словы да шчасьлівага «пакліканьня» настаяцеля, што выйшаў з асяродзьдзя вернікаў. Мне было прыемна даведацца й падчыркнуць павагу й пашану, якой цешыцца а. Янка паміж вернікаў і грамадзкасьці. Сам-жа а. Янка відавочна перапрацаваны. Апошнія тры гады бязупынна нэрвовага напружаньня пакінулі сьлед. Прыгатаваньне да высьвечэньня, поўная ўсемагчымых цяжкасьцяў душпастырская праца, арганізаваньне прыходаў, высьвячэньне ўжо дзьвюх капліцаў на працягу такога кароткага часу — вось актыўная пазыцыя гэтага адданага свайму заданьню сьвятара. Айцец пры гэтым працуе па 8 гадзін у дзень увесь працоўны тыдзень. Беларускай грамадзе ў Вялікабрытаніі трэба сапраўды падрахаваць свае фінансавыя магчымасьці, а такія існуюць, каб звольніць сьвятара ад заробковай працы хоць на 2-3 лні ў тыдні. Гэта неабходна й дзеля самаадукацыі, і дзеля душпастырства як такога, і дзеля рэпрэзэнтацыі, якая патрэбная так часта і якая карысная для ўсіх.

Малітвай «Магутны Божа» і мнагалецьцем закончылі мы ўрачыстую літургію, а папалудняўшы правялі час у гутарках і дыскусіях з старымі прыяцелямі і новымі знаёмымі.

Што-ж чуваць у Брадфардзе? Перш за ўсё няпрыемна ўсім за бяглуздую выскачку аднаго з былых актыўных сяброў гэтай-жа беларускай грамады. Дай Божа, каб ён, узважыўшы маральныя «за» і «супраць», здабыўся на сілу супрацьставіцца далейшай ілжы і здолеў вярнуцца ў грамаду, якую ён-жа актыўна памагаў арганізаваць; пагрэцца сяброўствам, спыніць дэмаралізацыю дзяцей сваіх, узгадаваных на вартасьцях сапраўднага беларускага патрыятызму.



**Айцец Я. Абабурка ў новай капліцы**

Беларуская грамада у Брадфардзе, ацэньваючы вялікі ўклад у грамадзкае жыцьцё сям'і Міхалюкоў, шкадуе ейнага пераезду ў Лёндан. Пэўна-ж, актыўныя людзі застануцца актыўнымі ў кожным асяродзьдзі, але, як кажуць, «свая кашуля бліжэй да цела», дык таму брадфардцы й сумуюць.

Трэба зацеміць, што выканаўчы хрыбет новавыбранай Рады БАПЦарквы ў Вялікабрытаніі, сакратарыят і скарбнік, знаходзіцца ў Брадфардзе. Арганізацыя змагла ўжо разьлічыцца за доўг, спрычынены прыгатаваньнем, высьвячэньнем і забясьпечаньнем свайго настаяцеля багаслужным адзеньнем і прыладамі. Трэба таксама падкрэсьліць, што беларуская грамада ў Вялікабрытаніі, а перш за ўсё брадфардзкая, нясе гэтыя выдаткі ўжо другі раз, выпасажыўшы двух сьвятароў, якія выйшлі з гэтай краіны. Доўг за прабываньне кандыдата ў Бэльгіі яшчэ існуе. Таму й я асабіста ўважаю лягічным пытаньне, ці парафія Клівэлянд не магла-б узяць на сябе частку гэтых выдаткаў, памятаючы факт атрыманьня сьвятара з Ангельшчыны. Гэтае пытаньне варта было-б паставіць на парадак дня Царкоўнай Рады Клівэндзкага прыходу. Сотня даляраў падбадзёрыць маральна, а гэта важна!

Шчырае дзякуй сп-ні Марцінкевіч за прыемную вячэру ў кругу Беларусаў і за выгадны начлег. Да сяньня засталіся незацёртымі ўражаньні ад расказаў з перажываньняў у часе апошняй вайны на Беларусі, а таксама з передваеннага часу — нялюдзкага сталінізму, калі ў нічым не вінаватыя людзі мусілі няраз мяняць прозьвішча, прафэсію, а то й аблічча, каб уцячы ад перасьледаў рэжыму, ад бяспраўя, рэдкага ў гісторыі чалавецтва. Прыходзіць думка, што такія расказы трэба было-б запісаць, замацаваць для гісторыі, бо сьветкі гэтых часоў паволі адыходзяць.

На станцыю правялі мяне прадстаўнік Царкоўнай Рады і верны сябра Стасюк. Паўночны экспрэс у кірунку Лёндану быў заняты пераважна Ангельцамі. Але ўсюды можна было чуць нямецкую мову; Галяндцы стараюцца гутарыць мовай краіны... Якая чысьціня, які камфорт і колькі месца! Колькі месца чалавеку ў малых і густа заселеных краёх Заходняй Эўропы! Месца ў кватэры, месца ў транспарце, рэстаране, у школе і на працы. Не адагнаць пытаньня: чаму ў нас на Бацькаўшчыне, дзе столькі прастору, так цесна чалавеку? У кватэры, у транспарце, нават... у турме. Чаму?

Звычайна ў Лёндане я затрымаўся ў Беларускім доме, адтуль ладзіў справы, наведваў знаёмых і горад. Гасьцілі мяне там бывала сябра Аляксандар ды гаспадарны сп. Аніська. Цяпер пасяліўся я бліжэй каля «веды» — найбагацейшай хіба беларускай бібліятэкі на чужыне, у Доме айцоў Марыянаў (не падумайце, што ўжо пад уплывам Рымскага сабору), а Беларускага Дому й зусім не адведаў. Сорамна, але абяцаю паправу. Вінаваты час, абмежаваны побыт, а багацьце беларускай бібліятэкі палоніць, асабліва таго, хто працуе над беларускай тэмай. У гэтым цяжкім палажэньні апынуўся й я. Чытача гэтых радкоў прашу адгукнуцца, калі можа мне дапамагчы дадзенымі на тэму гістарычнага нарысу беларускай бібліяграфіі, у тым ліку бібліяграфіяў беларускай мовы, гісторыі й літаратуры.

Беларуская Бібліятэка ў Доме Марыянаў імпануе сапраўднымі ўнікатамі беларускіх старых выданьняў ды багацьцем сучаснага друку. Палажэньне бібліятэкі для нас, што жывуць «на кантынэнце», вельмі нязручнае — гэта праўда. Ня гледзячы на гэта, трэба перадыскутаваць у прэсе пытаньне камплектацыі бібліятэкі выданьнямі, якія ля-

(Заканчэньне на 7-ай бач.)

---

Заднія за Раманам чацьвёркі насьцярожыліся, пярэднія павярнуліся назад.

— Значыць, не бярэш?

— Не бяру.

Сьцяпан Мялешка падняў Сталіна і вынес яго з чацьвёркі.

Таварыш сакратар партарганізацыі сказаў нешта на вуха загадчыку ваеннай катэдры і той голасна скамандваў:

— Студэнт Корзюк, выйдзіце з калёны!

Як сапраўдны жаўнер, Корзюк выйшаў і як на зважай выцягнуўся на ўвесь свой рост перад загадчыкам ваеннай катэдры:

— Куды скажаце мне стаць?

Загадчык катэдры ня ведаў, што адказаць Раману і зьбянтэжана глядзеў на сакратара партарганізацыі. Але й той разгубіўся.

Ідзеце дахаты! — знайшоў што сказаць загадчык катэдры. Ёсьць дахаты!

І Раман Корзюк хутка адыйшоўся на бок і стаў на дашчаным ходніку перад усёй калёнай. Калі ён стаяў перад загадчыкам ваеннай катэдры, выцягнуўшыся як вайскавік, ён думаў збыць усё жартам, надаць усяму гіранічна-кплівы сэнс, але з самага маэнту, калі ён апусьціў узьнятую да скроні сваю руку, Раманава жартлівасьць прапала і ён стаяў цяпер пераможаным, нікчэмным і ўдвая ніжэйшым. Уся калёна моўчкі глядзела на яго. Мень памкнуўся быў і тут схапіць мамэнт трагізму ў вобразе Рамана Корзюка, але яго назад упхнулі ў калёну.

Выйшла з падвалу аркестра і стала на самым перадзе. Вялікі Сталін усё-ж некім быў узьняты ўгору. Зайгралі туш, і калёна ўлівалася ўжо ў вагромністую ляву дэманстранцыі, што плыла па Савецкай. І толькі адзін Раман Корзюк, як быў, так і заставаўся стаяць на ходніку, як выплюнуты грамадай. Хутка апусьцеў Гарадак. Раман не хацеў заставацца, і адзінокім таксама пайшоў у горад.

Інстытуцкая калёна павярнула кудысьці на Карла Маркса, але ён усё яшчэ чуў сваю аркестру і як-бы йшоў на яе. Ён дайшоў па Савецкай да Ленінскай. На скрыжаваньні гэтых вуліц Раман спыніўся. Тут тоўкся горад яшчэ болей. З усюль калёны сыходзіліся сюды і, апынуўшыся тут, ішлі далей на Пляц Волі. Адтуль парад ішоў на Нямігу, і, абыйшоўшы колькі іншых вуліц, павялічаны колькасна, парад апыняўся на Валадарскага. .З Валадарскага трапляў зноў на Савецкую, каб зграмадзіцца на Ленінскай Плошчы перад Домам Ураду для прыняцьця.

Корзюк прапускаў вачыма гэты парад, усё застаючыся на савецка-ленінскім скрыжаваньні. Ён ведаў, што тут мае прайсьці і ВПІ. На ходніках людзі тупалі, грэючы ногі, паднімалі каўняры, сінелі,, але не хацелі чаго-небудзь прапусьціць. Гэтых людзей Раман прыраўноўваў да адкінутых на ўзбочча людзей, непатрэбных жыцьцю. Але яны, не здаючыся, усё яшчэ труцца на ўзбочынах каля магістраляў, каб хоць гэтым быць бліжэй да руху.

Вось Раман пачуў выразна сваю аркестру. Яна набліжалася й набліжалася. Неўзабаве Корзюк угледзеў яе і перш за ўсё Петрака Шыракова з барабанам. Пятрок быў радасны і ўсьміхаўся, відавочна, ад усьведамленьня свае годнасьці, яму, мусіць, здавалася, што на яго глядзіць увесь горад. Ад таго ягоны твар аж зіхацеў ад усьмешкі, як тая мядзяная труба, якую побач трымаў у руках ягоны сябра і йграў.

Корзюка з шэрагаў заўважыла Дзічкоўская і гукнула яго. Раман сігануў і ўжо быў каля яе. Наперадзе іх ішоў выкладчык гістарычнага матэрыялізму і, як заўсёды, горда нёс сваю галаву над натоўпам, наступаючы на пяты каму папала. Чацьвёрак ужо ня было. Праз гэтае скрыжаваньне, каб мінуць яго хутчэй (тут стаялі міліцыянэры і падганялі), людзі сыпаліся бульбай, безь якога-колечы парадку.

Музыка — трубы і барабаны — панесла Рамана разам з натоўпам. Калі яны анынуліся на Валадарскага і праходзілі паўз турму, Раман пабачыў, як вялікае мноства зьняволеных, высунуўшы праз краты голыя рукі, махала параду хусткамі і проста так, дробна і працягла, як птушкі крыламі. Там-сям парад адказваў ім тым-жа. Невялікая групка моладзі на ходніку сьпявала пушкінскага «Вязьня». Гэта дарэшты скалынула Рамана. Ён выйшаў з калёны і далучыўся да гэтай групкі на ходніку. Ён таксама хацеў сьпяваць гэтую песьню. Але зьнекуль, як з-пад зямлі, вырасьлі міліцыянэры і разагналі групку. Раман зноў застаўся адзін без грамады. З вокнаў турмы ўсё яшчэ махалі, і Раман, хоць і ведаў, што яе тут няма, шукаў у тых вокнах вачыма Валю. З аднэй высокай вартоўнібудкі стрэлілі, кулі заціўкалі па сьценах турмы і рук ня стала.

Хутка Раман Корзюк ходнікамі дайшоў да Дому Ураду Прыймалі парад мясцовыя правадыры, але былі й госьці. Праходзілі прадпрыемствы, установы, арганізацыі, кацілася армія. Вось і калёна Вышэйшага Пэдагагічнага Інстытута. Раман зірнуў — запраўды ўсю калёну сьпераду засланяў вялічэзьнейшы партрэт Сталіна. За гэтым партрэтам, побач іншых, матляліся маншыя сталіны, усе яны калыхаліся, мігцелі ў вачох, зьліваліся ў нейкай строгай, аднэй вусатай, як шчаціна, усьмешцы. І здавалася сталінам ня было канца. Яны гойдаліся ўсюды, задаволеныя і насьмешлівыя. Здавалася, што гэта толькі яны адны ідуць парадам на плошчу, каб узвысіцца там у выглядзе аднаго Сталіна вялічынёй на ўсе дзесяць паверхаў Дому Ураду і глядзець з вышыні на ўсіх, хто прышоў пакланіцца яму і шукаць вачыма тых, хто ня прыйшоў. І ўсе хацелі прыйсьці, каб паказацца яму на вочы. І вось яны йдуць і йдуць аж да чацьвертай гадзіны. Глядзяць на яго і крычаць яму «Гурра!» Гукнуць і адыходзяць, каб даць магчымасьць іншым выказаць сваё такое-ж захапленьне ім. Ён будзе стаяць над плошчай і ўначы, пасьля таго, як усе ўжо пройдуць, пільнуючы сон сваіх улюблёных чадаў.

Пад вечар хмары схлынулі, прайшлі таксама парадам на ўсход і ачысьцілі неба. Дзень яшчэ больш пасівярэў. Раман Корзюк не затрымліваўся ў горадзе і а пятай гадзіне быў на кватэры.

Гаспадыня сустрэла Рамана на ганку й запрасіла яго да сябе на кухню:

— Хачу нешта вам сказаць.

Яны ўвайшлі у хату.

— Сягоньня зданьню прайшоў нейкі чалавек паўз нашыя вокны. Адзін раз, а потым і другі. У высокім каўняры. Ні гарадзкі, ні вясковы. Гэтак асьцярожна і няўцям, што ажно я спужалася. Зірнець на вокны і ўтуліцца ў каўнер. Я стаяла якраз вось тут і ўсё бачыла. Не пасьпела я засланіць вакно фіранкаю, як каўняра ня стала. Аж бачу яго ў другім вакне, што на двор. Аглядае, быццам купляе... Я й падумала, што гэта ён нездарма. Прост насланьнё нейкае. Каб чаго дрэннага ня было, га? Што з вамі, вума не прыбяру. То вы ў хаце ёсьць,

# Незабыўныя дні

**(Ад нашага лёнданскага карэспандэнта)**

Некаторыя людзі зусім няслушна наракаюць на ангельскую восень. Трэба толькі ведаць спосабы, і яна можа стацца адной з найбольш прыемных пораў году. Найлепшы спосаб — гэта выехаць з Англіі на некаторы час ў паўднёвую Францыю або ў Італію... Гэта якраз зрабілі ў гэтым годзе вучні Школы сьв. Кірылы ў Лёндане, якія карыстаючы з кароткіх канікулаў, правялі адзін тыдзень у Рыме.

Пасьля больш чым 24-ох гадзіннай дарогі цягнікам і морам хлопцы ўпершыню пабачылі ў сыботу 30-га кастрычніка Вечны Горад, які спаткаў іх праменьнямі гарачага сонца («Як летам у Англіі» — чуліся заўвагі) і сінім небам. Адразу сталася відавочным, што плашчы і свэтры, якія ўзялі з сабою хлопцы з Лёндану, тут будуць непатрэбнымі...

На станцыі ў Рыме ўжо чакалі хлапцоў даст. Уладыка Часлаў Сіповіч і а. Р. Тамушанскі. Усе разам паехалі ў базыліку Санта Марыя Моджорэ, каб падзякаваць Багародзіцы за шчасьлівае падарожжа. Старая царква з 4-та стаг., захапіла хлапцоў сваей веліччу і прыгожасьцю.

На наступны дзень, у нядзелю 31-га кастрычніка, вялікая ўрачыстасьць: рукапалажэньне ў дыякана а. Робэрта Тамушанскага.

Пасьля абеду — першае знаёмства з Рымам. Усе паехалі ў цудоўны парк Пінчыё (дзе адзін вучань, загледзеўшыся на тэатр марыянэтак, згубіўся...), пабачылі Гішпанскую плошчу з яе слаўнымі сходамі, Капітоль, Мамэртынскую вязьніцу, дзе былі вязьнямі сьв. апосталы Пятро і Павал, і, наканец, Калясэум. Хлопцы з подзівам хадзілі між мурамі гэтага старога рымскага тэатру, які быў збудованы рукпамі жыдоўскіх нявольнікаў, прывезеных Тытусам пасьля разбурэньня Ерузаліму і які быў месцам стольскіх жудасных людзкіх цярпеньняў дзеля пацяшэньня масаў. Просты крыж, які там цяпер знайходзіцца, напамінае наведвальнікам аб масах хрысьціянскіх мучанікаў, якія, хутчэй чым адрачыся Хрыста, выбралі жудасную сьмерць на арэне.

На наступны дзень, у панядзелак, паездка ў катакомбы. Айцец А. Надсон і а. Дыякан Р. Тамушанскі адслужылі сьв. Літургію ў адной з падзямельных капліцаў, а даст. Уладыкпа Часлаў сказав прынагоднае казаньне, у якім ён зьвярнуў увагу на гонар, які спаткаў усіх прысутных, што маюць нагоду ўзяць удзел у сьв. Літургіі на месцы, дзе ўжо зямля ёсьць прасякнутая крывёю мучанікаў. Пасьля сьв. Літургіі — зьведваньне катакомбаў.

Пасьля абеду хлопцы зведвалі Форум Романум, Вія Сакра, руіны паганскіх сьвятыняў і базылікаў, будынак сэнату, дзе быў забіты Цэзар, ростра, адкуль дэмагагічныя палітыкі прамаўлялі да народу, гроб Ромулюса, трыюмфальныя аркі імпаратараў — усё гэта зрабіла жывой «мёртвую» старажытную гісторыю, якую хлопцы вывучаюць у школе.

У аўторак — экскурсія на цэлы дзень у Остыю. Па дарозе заехалі ў базыліку сьв. Паўла, каб памаліцца на горбе вялікага Апостала. Остыя была некалі портам старажытнага Рыму і мае амаль столькі гадоў, колькі сам Вечны горад. Найнавейшыя раскопкі адкрылі там цэлы рад добра захаваных будынкаў з рымскіх часоў, між якімі на ўвагу заслугоўваў тэатр. Гэты апошні ёсьць у такім добрым стане, што да сяньняшняга дня там адбываюцца пастаноўкі і канцэрты. Узьнікла думка зладзіць у тэатры беларускую пастаноўку. Хлопцы выходзілі пааднаму або групамі на сцэну, гаварылі вершы, сьпявалі песьні. Была выбраная сротая камісія, якая ацэньвала найлепшыя выступы і пасьля раздала нагароды. Да групы сваіх гледачоў далучыліся чужынцы... Мусіць яшчэ ніколі ня здарылася ў гісторыі, каб у старым рымскім тэатры, які мае бадай 2000 гадоў, чулася мова і песьня беларускіх дзяцей.

У сераду раніцай у базыліцы Санта Марыя Маджорэ а. пралат П. Татарыновіч адправіў сьв. Літургію за Беларусь. Літургія была ў рымскім абрадзе ў беларускай мове. Хлопцы прыслугоўвалі ў часе Літургіі, сьпявалі беларускія набожныя песьні: «О, Мой Божа», «Маці наша добрая», «Мы хочам Бога», «Магутны Божа».

Пасьля абеду вялікае здарэньне: аўдыенцыя ў сьв. Айца. Беларуская група на чале з Уладыкам Чаславам прыехала загадзя на плошчу сьв. Пятра, каб у час заняць сваё месца ў Базыліцы. Беларускія строі хлопцаў выклікалі захапленьне і подзіў з усіх старон. Іх бесперапынна фатаграфавалі, пыталі з якой краіны прыехалі? Трэба было тлумачыць на ўсіх магчымых і немагчымых мовах, аб тым, што такое Беларусь. Былі таксама аматары зрабіць інтэрас: адзін з вучняў школы сьв. Кірыла атрымаў прапанову ад італьянскага хлопца памяняць сваю кашулю на свэтар. У прыдачу італьянец даваў яшчэ яму 10000 ліраў (18 $).

Той, хто быў на аўдыенцыі ў сьв. Айца, ніколі не забудзецца аб гэтым. Дык ня дзіва, што аўдыенцыя зрабіла на беларускіх хлопцаў вялікае ўражаньне. Сьвяты Айцец спэцыяльна паблагаславіў іх і перадаў Уладыку Чаславу памятку-мэдаль для школы сьв. Кірылы.

Чацьвер — зьведаньне ватыканскіх музэяў. Цяжка было агледзець за кароткі час усе сабраныя скарбы. Найдаўжэй хлопцы затрымаліся ў Сыкстынскай Капліцы, слаўнай на ўвесь сьвет дзякуючы малюнкам Міхала Анёла.

Вечарам таго самага дня ўсе паехалі на прыняцьце ладжанае а. пралатам Татарыновічам. Па дарозе аднак заехалі ў царкву сьв. Сергія і Бака, каб пакланіцца іконе Жыровіцкай Божай Маці, якая там знайходзіцца ўжо больш чым 300 гадоў.

Наканец прышла пятніца, апошні дзень у Рыме. Хлопцы годна закончылі свой кароткі побыт у Вечным горадзе сьв. Літургіяй ў базыліцы сьв. Пятра. Служыў сьв. Літургію Уладыка Часлаў у саслужэньні з а. А. Надсонам і а. дыяканам Р. Тамушанскім. Быў прысутны Уладыка Балеслаў Слоскан. Хор хлопцаў прыгожа сьпяваў беларускія літургічныя напевы.

Пасьля Літургіі — кароткія зьведзіны базылікі, паварот дамоў, абед і выезд на станцыю. За пару хвілін цягнік адыходзіць і Рым паволі нікне з вачэй хлапцоў. Але ці назаўсёды?

Ёсьць у Рыме адзін фантан, які завецца фантан Трэві. Кажуць, што калі хто ўкіне туды манэту, дык ён напэўна вернецца зноў у Вечны Горад. Некаторыя вучні Школы сьв. Кірылы пасьпелі пабываць пры гэтым фантане аж тры разы...



**Яп. Ч. Сіповіч сярод вучняў школы сьв. Кірылы Тураўскага у Рыме**

# Рэформа савецкай прамысловасьці...

**(Заканчэньне з 2-ой бач.)**

ваў вытворчасьці харчовых прадуктаў. Апрача таго, рэспублікі будуць, відавочна, вырашаць, дзе будаваць адміністрацыйныя будынкі, будынкі культурнага й асьветнага прызначэньня. Але і ў адным, і ў другім выпадку толькі ў межах прызначанага зьверху Масквой вузенькага рэспубліканскага бюджэту. Усе-ж галоўныя галіны прамысловасьці будуць падпарадкаваныя беспасярэдня Маскве.

Магчыма, што пад пашырэньнем правоў саюзных рэспублікаў партыйнае кіраўніцтва разумее 7-мы артыкул закону, прынятага Бярхоўным Саветам СССР 2-га кастрычніка. Там гаворыцца:

«Для забясьпячэньня тэрытарыяльнага плянаваньня разьвіцьця прамысловай вытворчасьці пры галіновым прынцыпе кіраваньня прамысловасьцяй устанавіць, што праекты плянаў разьвіцьця народнай гаспадаркі рэспублікаў ува ўсіх галінах прамысловасьці саюзна-рэспубліканскага й рэспубліканскага падпарадкаваньня, а таксама прапановы адносна праектаў плянаў вытворчасьці прадукцыі (апрача абароннай) на прадпрыемствах агульнасаюзных міністэрстваў, разьмешчаных на тэрыторыі рэспублікаў, распрацоўваюцца дзяржплянамі саюзных рэспублікаў. Дзяржпляны саюзных рэспублікаў разглядаюць таксама пытаньні міжгаліновага характару прамысловасьці, разьмешчанай на тэрыторыі саюзнай рэспублікі, што ўзьнікаюць у ходзе выкананьня пляну, і выпрацоўваюць прапановы ў гэтых пытаньнях».

Але і ў гэтым законе правы саюзных рэспублікаў зводзяцца толькі да выпрацоўкі **праектаў і прапановаў.** Вырашальнае слова ўва ўсіх пытаньнях прамысловасьці, падпарадкаванай усесаюзным і саюзна-рэспубліканскім міністэрствам затрымлівае для сябе Масква. Такім чынам правы саюзных рэспублікаў застаюцца й тут толькі прапагандовым міражом.

Пра **пашырэньне** гаспадарчай самастойнасьці Беларусі, як і іншых саюзных рэспублікаў, гаварыць не даводзіцца. Рэформа прамысловасьці нічога не зьмяніла на карысьць рэспублікаў. Сталінскі гэтак званы «дэмакратычны цэнтралізм» далей застаецца ў сіле. У канстытуцыю СССР у гэтым пытаньні ня было ўнесена ніякіх зьменаў.

Саюз сувэрэнных рэспублікаў прадугледжвае ня толькі поўную культурную й гаспадарчую самастойнасьць, але й шырокую палітычну незалежнасьць. Такім саюзам прэтэндуе быць СССР. А што мы маем на практыцы? Нацыянальная культура сабатуецца, гаспадарчыя правы абмежаваныя да мінімуму, а пра нейкую палітычную незалежнасьць ня можа быць і мовы. Няўжо крамлёўскія верхаводы думаюць, што народы іхнай імпэрыі горшыя за афрыканскіх нэграў і што яны будуць вечна цярпець зьдзек над сваімі элемэнтарнымі правамі?

**Ю. С.**

# Перашкоды ў вывучэньні гісторыі ў Беларусі..

**(Заканчэньне з 3-ай бач.)**

на, бо, паводля таго-ж нумару «Полымя», «кнігадрукаваньне на Беларусі ў другой палове XVI стагодзьдзя было зусім звычайнай зьявай. Напрыклад, у гэтым часе існавалі пэрыядычна друкарні ў Вільні, Берасьці, Нясьвіжы, Лоску, Заблудаве, Слуцку, Заслаўі, Любчы і іншых месцах. У XVII стагодзьдзі колькасьць друкарняў яшчэ больш узрастае. Яны зьяўляюцца там, дзе раней іх ня было: у Менску, Магілеве, Буйнічах, Полацку, Горадні, Еўі, Супрасьлі, Ашмянах, Слоніме, Кутэйне і гэтак далей».

Значыць — дасьледваць ёсьць што і ёсьць з чаго. Толькі гэтыя друкаваныя й рукапісныя матарыялы трэба павыцягваць з архіўных падвалаў у расейскіх, польскіх і іншых гарадох, перавесьці ў Беларусь і даць у распараджаньне беларускіх вучоных. Калі-ж, урэшце, перавязуць у Беларусь вялізарныя архівы «Літоўскай мэтрыкі» — гэтага каштоўнага збору напісаных пабеларуску дакумантаў і дзяржаўных актаў Вялікага Княства Літоўскага, якія зьяўляюцца аднэй з найлепшых першакрыніцаў для дасьледваньня гісторыі нашага краю?

Але — мала дасьледваць (беларускія навукоўцы гэта ўжо часткова робяць). Трэба, каб гэтыя дасьледваньні **публікаваліся,** каб на аснове іх, як правільна адзначыў Зінові Капыскі, беларускія пісьменьнікі маглі свабодна стварыць мастацкую гістарычную літаратуру. Бо зь беларускім гістарычным раманам справа сапраўды кульгае. І ў гэтым вінаватая ня столькі нястача гістарычных крыніцаў, колькі партыйная палітыка ў дачыненьні да гісторыі Беларусі. Апошнім часам таленавіты беларускі пісьменьнік Уладзімер Караткевіч напісаў некалькі твораў на гістарычную тэматыку. Напісаў захапляюча і згодна з гістарычнай праўдай. Прафэсыйная беларуская літаратурная крытыка прыхільна ацаніла гэтыя творы, беларускі чытач нецярпліва чакае зьяўленьня новых гістарычных твораў Караткевіча. А вось партыйная крытыка — зашыпела. Партыйнаму падпявалу Якаву Герцовічу, які зьмясьціў сваю рэцэнзію на творы Караткевіча у газэце «Советская Белоруссия», асабліва непадабалася, што Караткевіч у повесьці «Дзікае паляваньне Караля Стаха» ацэньнвае гістарычныя падзеі пасвойму, а не паводля партыйнай догмы, паводля якой беларускі народ заўсёды быццам імкнуўся да аб'еднаньня з расейскім народам у аднэй дзяржаве. Герцовіча зусім ня турбуе той факт, што беларускі народ, які стагодзьдзямі стаяў на вышэйшым культурным і арганізацыйным узроўні за тагачасную Расею, — гэты беларускі народ ня мог адчуваць патрэбы да такога аб'еднаньня. Зрэштай, гэтаму супярэчыць і сама гісторыя.

**М. Кручкоўскі**

---

то вас няма. То вы начуеце, то вы не начуеце. Бадзяецеся недзе.

— Хутка я аслабаню вас...

— Я ня тое, што ганю вас з хаты. Жывеце, як жылі. Я вас шкадую, от што. Толькі ўсё мне тут яўцям.

— Хутка ўсё будзе ясна. Дзякую за навіны.

Раман Корзюк памкнуўся ў свой пакой, але гаспадыня затрымала яго.

— Паслухайце мяне, старую. Ганеце ўсіх ад сябе прэч. Ня пушчайце злыбяды на парог... Хто гэта такі бывае у вас?

— Мой дзядзька.

— Не маніце! Бачу я гэтага дзядзьку. А дзе-ж гэта вашая дзеўчына?

— От зьбіраюся да яе. Дайце, калі ласка, мне чыстую кашулю, гарнітур і гальштук. Іду на вечар... Вясельле будзем гуляць.

Раманава гаспадыня недаверліва паглядзела на яго і праз сваю крывую ўхмылку сказала:

— Вясельле гуляеце, а мяне не запрашаеце. Добрага чалавека я маю!

— Канешне, я жартую. Але на вечар запраўды іду. Кастрычнік будзем гуляць. Дзяўчаты запрасілі і трэба як найхутчэй.

— Затрымліваць ня буду. Ідзеце сабе. Толькі глядзеце, каб гэты кастрычнік кайстрою і пылам горкім не абярнуўся... Зьелі-б што? Цалюткі-ж дзень няеўшы.

— Дзякую. Там усё будзе.

Раман пайшоў у свой пакой, а гаспадыня пашкадавала, што не распытала яго пра ўсё, як хацела, калі перанімала Корзюка на ганку. «Прыбег во і, як кот угарэлы, бяжыць зноў. Мітусіцца як перад сілом якім».

Хутка Раман быў гатовы. На ім быў добраадпрасаваны гарнітур, той самы, у якім ён хадзіў у Польшчу. Пасьля прасу, аднак, ён пацямнеў і быў як новы. Гаспадыня адпусьціла ў ім рукавы, падоўжыла нагавіцы, і цяпер Раман не выглядаў такім цыбатым, як раней. Корзюк перад адыходам паказаўся гаспадыні.

— Пажадайце мне ўсяго найлепшага.

— Прост шкада мне цябе. Ну йдзі з Богам... Нешта-ж ты ў вадным плашчыку. Акалееш.

На двары было цёмна. Знаёмымі вулічкамі Корзюк пайшоў на трамвайны спынак. Калі ён увайшоў у трамвай, кандуктар, што заўсёды езьдзіць на гэтай лініі і ведае Рамана, многазначна міргнуў яму, і гэты мірг няпрыемна падзейнічаў на Корзюка. На наступным спынку селі два міліцыянэры. У вадным зь іх Корзюк пазнаў таго самага, што забраў у яго грошы на вуліцы ля карчомкі. Міліцыянэр пазнаў Рамана таксама (аб гэтым можна было здагадацца па тым зірку, які кінуў на яго міліцыянэр), але выгляду не паказаў, ушчаў гутарку з сваім спадарожнікам, і ніразу больш ня зірнуў на Корзюка.

Манастыр ужо сьвяткаваў Кастрычнік. У некаторых ягоных пакоях голасна гаманілі, спявалі і крычэлі. А ў вадным граў патэфон і там чутна была тупаніна — танцавалі. У змрочным карыдорчыку Раман угледзеў адну пару, што як мага прыціскалася да сьцяны, пэўна, каб яе не пазналі. Перад дзьвярыма, у якія ён мусіў увайсьці, Раман спыніўся. Яму чамусьці здалося, што дзьверы адчыніць Валя Камоцкая, возьміць яго пад руку і павядзе, жартуючы, да свайго ложку. Дзяўчаты будуць кпіць зь яе, што яна забірае яго ад іх і цягне адразу ў свой куток, быццам баючыся што ў яе адберуць яго. Калі Раман увайшоў, яму кінулася ў вочы нязвычайнае: бутэлькі на стале і поўнае застольле людзей. Значыць, яго не чакалі. Гэтак знаёмы яму пакой, утульны і ціхі, гаманіў цяпер нейкімі незаёмымі і няпрыемнымі для яго галасамі, быў цесным і закураным. Як яшчэ стукаўся Корзюк у дзьверы, яму доўга не адчынялі, і ўжо гэта адно пакрыўдзіла яго, а той факт, што адчыняла яму Ларыса, а ня хто іншы, толькі ўзмацніў у ім незадавальненьне сабою і ўсімі. Корзюк доўга заставаўся каля дзьвярэй, не падыходзячы да стала і ні зь кім ня вітаючыся. Ларыса глядзела на яго і нічога не гаварыла, стаяла і ня йшла на сваё месца. Дзьве лямпачкі вісела над сталом, зацемненыя каляровай паперай, і ад таго ля парогу было змрочна. Адсюль Кордзюк, аднак, усё бачыў, а сам быў нявідзён. За сталом, відаць, дайшло ўжо да такога пункту весялосьці, калі ўвага паглыналася ня вонкавым, а ўнутраным. І, мусіць, таму Раман заставаўся незаўважаным. Ён хацеў навет выйсьці, але, пачуўшы ў сабе голас помсты за абыякавасьць да яго, Корзюк нязвычайна голасна, што не адзін падскочыў за сталом, прывітаўся:

— Добры вечар!

Усё застольле паглядзела на яго. Першай выхапілася Дзічкоўская, пакінуўшы Яначкіна:

— Што-ж ты так позьнішся, Рамашачка? А ты стаіш і не запрашаеш, — тут-жа зьвярнулася яна й да Ларысы. Потым падыйшла і Роза Шкляр, і ўсе яны пацягнулі Рамана за стол. На момант гаворка спынілася, і тая весялосьць, якая была ўжо запанавала тут, перарвалася з прыходам Рамана. На твары Мялешкі застыла незадаваленьне, а Яначкін пачаў вылазіць з-за стала, абражаны, мусіць, няўважлівасьцяй Дзічкоўскай, якая выяўна ліпла цяпер да Корзюка.

— Не ўцякай, Яначкін! Вып'ем за прыход у нашу сям'ю Рамана Корзюка!

— Чакай, Оля! Можа гэтая сям'я якраз і ня хоча мяне.

— Хочам! Хочам! — закрычэлі дзяўчаты.

— Пачакайце! Я ведаю ,што вы хочаце, — сьцішала Дзічкоўская. — Але найперш вып'ем!

Выпілі ўсе,апрача Мялешкі. Дзічкоўская заўважыла гэта й секанула:

— Сьцяпан! І на Кастрычнік ня хочаш выпіць?

— А ты хіба выпіла цяпер за Кастрычнік?

— Канешне, за Кастрычнік! А за што-ж?

— Добры твой Кастрычнік!

— Ня горш твайго!

І Дзічкоўская тэатральна ўсадзіла каля сябе Корзюка. Корзюк пачырванеў.

— Вып'ем запраўды цяпер за Кастрычнік! Паглядзімо, ці будзе піць Мялешка!

Грамадою ўсе пасталі над сталом, узьняўшы чаркі.

— За Кастрычнік!

Але Мялешка ня ўзьняў свайго кілішка, укведены і абражаны.

— Сьцёпачка, што з табою? Хутчэй! — на Дзічкоўскую найшоў нейкі шал і яна не адступалася ад Мялешкі: — Ну!

Мялешка не сьпяшаючыся падняўся, але замест таго, каб узяць і ўзьнесьці чарку, ён вылез з-за стала і рашучым крокам пайшоў да дзьвярэй.

(Далей будзе)

# ЗЬ БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

## Беларусы ў Радзе Стагодзьдзя Канады

У 1867 годзе, у Лёндане быў прыняты Брытыйскі Паўночна-Амэрыканскі Акт, паводля якога Канада была ператворана з калёніі ў дамінію. Ад гэтага часу датуецца пачатак Канадзкай дзяржаўнасьці й нацыянальнасьці. У 1967 годзе скончыцца стагодзьдзе гэтага векапомнага Акту, а разам з тым і стагодзьдзе Канады.

Гэту вялікую гістарычную падзею Канада рыхтуецца адзначыць ня толькі агульнанацыянальным сьвяткаваньнем, але й выкананьнем розных канструкцыйных і культурнаасьветных праектаў па ўсей краіне. Каб дапамагчы ў плянаваньні й выкананьні гэтых вельмі-ж лічных праектаў, як і ў арганізацыі сьвяткаваньня стагодзьдзя Канады па ўсёй краіне — па лініі дзяржаўнай быў створаны адмысловы дзяржаўны ворган — Камісія Стагодзьдзя (Сэнтеніял Комішн).

Па ліні грамадзкай, з ініцыятывы грамадзтва ў 1960 годзе паўстала грамадзкая каардынацыйная арганізацыя — Рада Стагодзьдзя Канады (Канэдыен Сэнтэнэры Каўнсіл). Стварылі яе 100 грамадзкіх арганізацыяў, якія сталіся ейнымі закладчыкамі й першымі сябрамі. Цяпер лік арганізацыяў — Сяброў Рады Стагодзьдзя Канады – асягнуў лік 850. Згуртаваньне Беларусаў Канады сталася паўнапраўным сябрам Рады Стагодзьдзя Канады ў 1961 годзе. Заданьнем Рады ёсьць стымуляваньне праектаў на стагодзьдзе Канады й каардынацыя працы ды дапамога ў выкананьні іх.

Каб бліжэй падыйсьці да грамадзтва й арганізацыяў — сяброў сваіх па ўсёй краіне, Рада Стагодзьдзя Канады робіць свае штогоднія зьезды ў паасобных гарадох, сталіцах правінцыяў Канады. Сёлетні ўжо 5-ты гадавы зьезд Рады Стагодзьдзя Канады адбыўся ў Таронта — сталіцы Онтарыё ў днях 8, 9 і 10 верасьня, у найбольшым тутэйшым гатэлі Роял Ёрк Готэл.

Ад Згуртаваньня Беларусаў браў удзел у Зьезьдзе д-р В. Жук-Грышкевіч. Праца Зьезду была зарганізавана добра, вялася паводля загадзя апрацаванага пляну й абняла ўсе дзялянкі дзейнасьці Рады. Работа праводзілася часткова ў камісіях, часткова на пленарных паседжаньнях. Таму адзін дэлегат ня мог быць на ўсіх паседжаньнях камісіяў. Гэта, аднак, было прадугледжана й паасобныя камісіі рабілі справаздачы з сваёй працы на пленарным паседжаньні.

Выкарыстоўваўся час і на абедах, і на вячэрах, у часе якіх выступалі адмыслова запрошаныя прамоўцы, якімі мелі быць канадзкія міністры ці іх заступнікі, або кіраўнічыя дзеячы Рады Стагодзьдзя Канады, ці Камісіі Стагодзьдзя Канады. Што да міністраў — дык яны не зьявіліся, бо акунуліся ў распачатую ў міжчасе выбарчую кампанію. Замест іх выступалі іх заступнікі.

Зьезд ішоў пад знакам ахапленьня сьвяткаваньнем стагодзьдзя Канады ўсіх арганізацыяў, усіх асяродкаў, усяго грамадзтва. Дыскутаваліся спосабы каардынацыі працы й парады ў плянаваньні ды выкананьні праектаў на стагодзьдзе Канады ў разрэзе фэдаральным, правінцыянальным, муніцыпальным, як і ў паасобных мясцовых арганізацыях. Абмяркоўваліся праекты маладзёжных арганізацыяў і работніцкіх, артыстаў і мастакоў, шпіталёў і школаў.

Праектаў і розных плянаў аказалася безьліч: і паркі, і будынкі, і культурны цэнтры адпачынку, і навуковыя, і школьныя, і вайсковыя, і лякарскія, і рэлігійныя й розныя іншыя. Залежыць на тым, каб ня толькі адсьвяткаваць стагодзьдзе Канады, але й пакінуць у сувязі з гэтай падзеяй трывалыя, відавочныя помнікі. Тут выявілася ў поўнасьці колькі-ж гэта трэба ўлажыць працы, высілкаў ды ўмеласьці, каб скалануць цэлай нацыяй і захапіць яе так важнай падзеяй.

Трэці дзень Зьезду прайшоў навакол пытаньня: што яшчэ трэба зрабіць за 15 месяцаў, якія засталіся да даты сьвяткаваньня. І тут выявілася мора работы. Усе даклады й дыскусіі на гэту тэму зводзіліся да аднаго: як уключыць у сьвяткаваньне ўсіх жыхароў Канады, аб'яднываючы іх пад адным нацыянальным Канадзкім сьцягам?

Тут было месца на пытаньне прадстаўнікоў этнічных групаў, аб якіх нічога не ўспаміналася ў дыскусіях; якая-ж роля этнічных групаў у гэтым агульна-канадзкім сьвяткаваньні? Пытаньне гэта паставіў у сваім выступленьні прадстаўнік Згуртаваньня Беларусаў Канады.

Пытаньне было на часе, яно выклікала жывую дыскусію й шмат рэплікаў. Забіралі голас дэлегаты, а між імі Украінцы й Плаякі (прадстаўнікоў іншых этнічных групаў здаецца й ня было). Ўрэшце агульны адказ на пытаньне гэта, як сфармуляваў яго старшыня паседжаньня, зводзіўся да таго, што этнічныя групы маюць усьведаміць свае асяродзьдзі ў значэньні стагодзьдзя Канады, але адзначыць яго пасвоему у выкананьні сваіх мясцовых праектаў з захаваньнем сваіх этнічных і культурных асаблівасьцяў. Этнічная й культурная разнароднасьць вельмі карысная й пажаданая ў агульна-канадзкім адзінстве, казаў старшыня, у канадзкай культуры, якую гэта разнароднасьць узбагачвае (дывэрсіты ін юніты). Тут, між іншага, выявілася як важным ёсьць, каб дэлегат тэй ці іншай арганізацыі выступаў, забіраў голас у дыскусіях. Пасьля паседжаньня дэлегат ЗБК быў абдораны значнай увагай удзельнікаў Зьезду. Яго абступілі розныя дэлегаты й пачалі закідаць пытаньнямі пра яго арганізацыю, пра яго нацыянальнасьць.

Агульнае ўражаньне аб Зьезьдзе Рады Стагодзьдзя Канады: Гэта быў высілак вялізарнага арганізацыйнага канглямэрату, каб уся Канада, усё ейнае насельніцтва адсьвяткавала стагодзьдзе сваёй дзяржаўнасьці й нацыянальнасьці ды пакінула па ім відавочныя помнікі; каб выкарыстаць гэту падзею для канадзкага нацыянальнага ўсьведамленьня, а таксама нацыянальнага й дзяржаўнага адзінства з захаваньнем культурнай разнароднсьці правінцыяў і розных этнічных грпуаў. Для нас жа, Беларусаў, Зьезд гэты меў і пэўнае значэньне прапагандовае. Назоў нашай арганізацыі ёсьць ува ўсіх выданьнях Рады Стагодзьдзя Канады. Дэлегат яе на працягу трох дзён насіў прышпіленую картку з назовам сваёй арганізацыі. Назоў гэты будзе ў справаздачах Зьезду.

**Ж.**

## Дзень Герояў у Таронта

Як у мінулыя гады, так і ў гэтым годзе дзень Гэрояў Беларусі быў гожа адзначаны беларускім грамадзтвам у Таронта. У нядзелю 28-га лістапада БНА адзначыла дзень нашых гэрояў адумысловай багаслужбай у беларускай царкве сьв. Эўфрасіньні Полацкай з прынагодным казаньнем пратаерэя а. Сагайдакіўскага.

У тую-ж нядзелю адбылася ўрачысчасьць і ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры. Пратаерэй а. Мацукевіч адслужыў паніхіду ў чэсьць Гэрояў Беларусі ў мясцовай БАПЦ сьвятога Кірылы Тураўскага й сказаў прынагоднае казаньне.

А гадз. 1.30 у залі Цэнтру адбылася ўрачыстая акадэмія прысьвечаная Гэроям Беларусі, зарганізаваная Тарантонскім аддзелам ЗБК. На акадэмію сабраліся як сябры ЗБК, так сябры БНА й беларускае грамадзтва Таронта й ваколіцаў.

Акадэмія пачалася канадзкім гімнам, які выканала на піяніне спадарыня Валя Навіцкая. Адчыніў акадэмію старшыня Тарантонскага аддзелу ЗБК сп. Г. Барановіч. Ён прадставіў пабежна галоўныя мамэнты ў змаганьні Беларусі за сваю незалежнасьць і запрапанаваў прысутным адсьпяваць жалобны гімн «Сьпі пад курганам Гэрояў». Пасьля гэтага памяць Гэрояў Беларусі была ўшанавана хвілінай маўчаньня.

Для дакладу на тэму дня сп. Барановіч даў голас Д-ру Б. Рагулі. Ён спыніўся галоўным чынам на значэньні Гэрояў Беларусі, якія аддалі сваё жыцьцё, каб жыла Бацькаўшчына, ды зьвярнуў увагу на тую ролю, якую павінна адыгрываць беларуская эміграцыя ў беларускай вызвольнай справе.

Пасьля дакладу студэнт Уладзімер Барановіч прадэклямаваў верш Янкі Купалы «Зваяваным», а Валя Навіцкая выканала на піяніне жалобны марш і песьню «Ідуць жаўнеры беларусы».

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

## Угодкі Францішка Багушэвіча

Была восень 1965 году. Больш за сто год ад таго часу й больш за тры тысячы міль ад таго мейсца, дзе радзіўся й жыў Францішак Багушэвіч, жменька людзей, бо ня тысячы ці сотні, а сьціплыя дзясяткі між мільёнаў чужога мора, закінутыя бурай жыцьця ў далёкую Канаду аддавалі чэсьць Таму, з чыім клічам — «Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!» — ішлі. Мо іх і ня шмат, але яны ня ўмерлі.

24-га кастрычніка ў царкве сьв. Кірылы Тураўскага адпраўляецца сьв. літурлія, а побач царквы-капліцы знаходзіцца заля, якая сяньня мае таксама атмасфэру сьвятыні. Чаму? Сяньня яна гасьціць Вялікага Дастойніка Багушэвіча. І прысутнасьць Яго тут адчуваецца. Кажны, хто ўваходзіць на залю, проста накіроўвае свае крокі напокуць, дзе пад слаўнай Пагоняй на беларускай дзяружцы й вышыўках між сьцягамі лунае партрат Багушэвіча й ягоны бессьмяротны кліч: «Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!»

Пасьля багаслужбы заля напаўняецца. А першай гадзіне старшыня ЗБК Мгр. А. Грыцук адкрывае акадэмію й дае слова дакладчыку Др-у В. Жук-Грышкевічу. «Роўна 125 год таму нарадзіўся й роўна 65 год таму памёр бацька беларускага адраджэньня Францішак Багушэвіч....» — пачаў дакладчык. Ён пераносіць нас думкамі на Беларусь у цёмную данашаніўскую пару, шукае прычынаў і дзейнікаў, якія фармавалі душу вялікага патрыёты й дзеяча. З партрэту на сьцяне зыходзіць на залю малады студэнт, а тады юрысты..., а тады паўстанец... І ўжо не дакладчык, а «сялянскі адвакат» з гарачай беларускай душой вядзе з намі гутарку. Ён гаворыць аб слаўнай нашай мінуўшчыне, аб тых дзяржаўных актах пісаных нашай чысьцюсенькай беларускай мовай, якую мы павінны шанаваць і не пакідаць. «Калыханкай» — прыпамінае матку; нясе настальгію пытаючыся: «Гдзе радзіліся, гдзе-ж вы хмарачкі? Гдзе «тутэйшымі» называліся?... зямлі родненькай знаць няма ў нас, ні уголачку, ні прытулачку...»

А мы, што Яму адказалі? За 65 год ад ягонай сьмерці да чаго дабіваліся, што асягнулі?... На разьвітаньне толькі абяцалі: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі... ў крывавых муках мы народзім жыцьцё Рэспублікі Сваей.» Ці датрымаем слова?

*Р. Ж.*

## Пачаткі беларускага адраджэньня

На гэту тэму зрабіў даклад Др. В. Жук-Грышкевіч 14-га лістапада ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта на просьбу беларускіх жанчын, якія, пасьля дакладу аб Багушэвічу зацікавіліся гэтай тэмай. Лік прысутных і гэтым разам быў значны — панад 40 асобаў.

Нашы жанчыны ўвялі ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры добры звычай: частаваньне кавай з перакускай перад кожнай імпрэзай. Гэта дае задаваленьне ўдзельнікам імпрэзаў, стварае сяброўскую атмасфэру, а разам з тым прыносіць прыбытак у касу. Частаваньне праводзіць Камітэт прыняцяў пад кіраўніцтвам спадарыні Марыі Ганько.

## Другі сход канадзкіх Беларусак

Ці таму, што ў мінулую нядзелю ня было багаслужбы, бо айцец Міхаіл наведваў Беларусаў, ці таму, што пачынаецца школа (праўду кажучы дык настаўніка, апрача для закону Божага, яшчэ няма), ці таму, што сяньня жаночы сход, але людзей у Беларускім Цэнтры, як на Пружанскім кірмашы на сьвяток бывала... Вось і Мікалай спад Шарашова зь ягонай чысьцюсенькай Пружанскай гаворкай. Прыехаў на «кірмаш» з цэлай сям'ею, але гэтым разам з Антарыйскага Лёндану... Вяртаючыся да Цэнтру: прыйшло шмат жанчын, а там дзе жанчыны — там і мужчыны, там дзеці. Вось таму — як на кірмашы.

На залі супакоілася. За сталом, накрытым быццам тканымі ў восем нітоў дзяружкамі, селі жанчыны. Старшыня стаіць і моўчкі чакае пакуль апошнія гутаркі мужчын ды тупаценьне дзяцей супакояцца. Перад сяброўкамі Задзіночаньня Жанчын пры ЗБК й Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага стаіць не малое заданьне: прыняцьце статуту, ды выбары ўправы. Пасьля дыскусіяў над праектам, апрацаваным тымчасоваю ўправай, і ўнясеньня колькі зьмен ды направак — Задзіночаньне прыняло свой закон.

Паводля статуту, Задзіночаньне, хоць незалежная арганізацыя, ідэялягічна ня можа быць у разрэзэ з ЗБК, якое было ініцыятарам яго паўстаньня. Усе сяброўкі дзеляцца на тры камітэты, кожны з асобнай дзялянкай працы. Частыя зборкі, што найменш восем у год, будуць служыць умацаваньню сяброўства, ды самаўзгадаваньню — аднаму з найважнейшых заданьняў Задзіночаньня.

У управу ўвайшлі: старшыня — д-р Раіса Жук-Грышкевіч, заступнік — сп-ня Лена Кулеш, сэкратар – сп-ня Ніна Чорная, скарбнік — сп-ня Оля Грыцук, сябра — сп-ня Марыя Ганько, якая была вызначана ўправаю на кіраўніка камітэту для гасьцінных прыняцьцяў, Лена Кулеш ачоліла камітэт для дэкарацыі царквы й залі, а Натальля Навіцкая — камітэт для працы зь дзяцьмі.

«Што я ведаю аб выдатных жанчынах Беларусі?» — ёсьць ключовым пытаньнем Задзіночаньня. Яно чакае на грунтоўную апрацоўку. Праграмай на наступную зборку – ў лістападзе — будзе даклад: «Пачаткі беларускага нацыянальнага адраджэньня».

Сход закончыўся нацыянальным гімнам.

**Р. Ж..**

# Лісты ў Рэдакцыю

Вельмі прашу зьмясьціць у »Б-не« шчырую падзяку маім былым сябром па зброі за тую ўвагу да мяне, якую яны выказалі сваімі запросіамі да сябе ў Ангельшчыну і за іхную вялікую беларускую гасьціннасьць.

Я быў вельмі ўзрушаны тым, што мае малодшыя сябры, як і ў мінулым годзе, не пашкадавалі сваіх цяжка запрацаваных грошаў, каб аплаціць мне падарожжа самалётам зь Мюнхэну ў Манчастар і назад. Мае манчэстарскія суродзічы акружылі мяне такой увагай, што я на пэўны час забыўся пра сваё адзіноцтва і невясёлае жыцьцё. Я адчуў, што я ня ўсімі забыты.

Немагчыма апісаць усё й падзяліцца ўсімі прыемнымі ўражаньнямі. Але хачу падкрэсьліць, зарганізаваныя настаяцелям БАПЦ ў Манчэстэры і маімі манчэстараўскімі сябрамі, падарожжы ў Нотынгад, Брадфард, Лёндан.

Незабыўнае ўражаньне зрабіў на мяне побыт у Нонынгаме. Беларусы Нотынгаму адзначалі якраз сваё парафіяльнае сьвята — сьвятога Міколы. Царква была перапоўненая вернікамі. Пасьля Багаслужбы — прыняцьце. Вялікая заля Украінскага клюбу ледзь зьмясьціла гасьцей. Апрача Беларусаў, былі на ім і ўкраінскія госьці. Настаяцель БАПЦ сказаў прамову і павіншаваў Мікалаяў зь іхнымі імянінамі. Падмацаваўшыся пачастункам, грамада пачала дзяліцца ўспамінамі, а пасьля паплылі гукі беларускай песьні. Народныя песьні зьмяняліся вайсковымі, якія мы сьпявалі будучы ў БКА. Украінцы таксама прасьпявалі некалькі сваіх народных песьняў. Кульмінацыйным пунктам былі беларускія танцы, якія пачала моладзь, а потым да яе далучыліся й старэйшыя.

Не магу абмінуць і Лёндан, дзе я меў нагоду быць прысутным на Агульным Зьезьдзе ЗБВБ. На наступны дзень у Беларускім Доме Лёндану адбылася Багаслужба. Прыгожа сьпяваў хор вучняў беларускай школы сьв. Кірылы Тураўскага. Пасьля — традыцыйны беларускі пачастунак. Будучы ў Лёндане, лічыў сваім абавязкам адведаць а. Гэрмановіча, каб гэтым выказаць яму сваю пашану.

Мой пяцітыднёвы побыт у Ангельшчыне прайшоў як пяць дзён, але й я цяпер яшчэ жыву прыемнымі ўспамінамі. Пакінуў я Ангельшчыну ўпэўнены, што справа, за якую мы змагаліся, жыве, і жаўнерскі дух у маіх старых сяброў не пагас і не пагасьне.

**А. Маляўка**

*

Гэтым далучаю свой голас да заклiку сп. М. Сяднёва што да падтрымкі газэта «Бацькаўшчына» — ня толькі падпіскаю й матарыяламі, але й ахвярамі. Гэта найстарэйшая беларуская газэта на эміграцыі і не памылюся кажучы, што яна нашая агульна-нацыянальная рэпрэзэнтантка. Калі-б «Бацькаўшчыны» ня стала, Беларусы на эміграцыі засталіся-б пазбаўленыя паважнага прэсавага органу.

**Я. Чарнэцкі**

## Міжнародны Фэстываль у Чыкага

У днях 16 і 17 кастрычніка 1965 г. адбыўся ў Чыкага чарговы штогодні Міжнародны Фэстываль народнай творчасьці, нацыянальных асаблівасьцяў й культуры шматлікіх народаў Эўропы, Азіі, Афрыкі й Амэрыкі. Фэстываль адбыўся ў аграмадным будынку «Нэві Пір» на беразе возера Мічыган, выставачная заля якога цягнецца прыблізна поў кіляметра. Сярод больш паўсотні розных вольных і паняволеных народаў, была й беларуская выстаўка народнай творчасьці (ткацкія вырабы, вышыўкі, вязаньне, гафт, нацыянальныя строі, арнамэнтыка, мастацкія вырабы зь дрэва, кэраміка й інш.), беларускай нацыянальнай літаратуры ды нацыянальных асаблівасьцяў. Беларуская танцавальная група пад кіраўніцтвам сп. Веры Рамук выканала на міжнароднай сцэне ў абодвыя сьвяточныя дні рад нацыянальных танцаў (Мікіта, Кадрыль, Лявоніха), даючы пры гэтым даведку аб Беларусі й яе культуры. Агулам наведала Фэстываль і нацыянальныя выстаўкі да 75 тысячаў людзей. Наша Выстаўка прыцягвала ўвагу наведвальнікаў арыгінальнасьцяй нацыянальнага арнамэнту, а также паказам народнага прадзіва ў выкананьні сп. Т. Тарасэвіч. Яна была аднэй з найбольш актыўных інфраматараў аб Беларусі для зацікаўленых. Атракцыяй Фэстывалю былі «каралевы» кожнай нацыі. Беларускай «каралевай» была выбраная сп. Я. Кучура. Пазьней «каралевы» былі запрошаныя Старшынём м. Чыкага на славуты баль катэтаў амэрыканскіх ваенных афіцэрскіх школаў, што адбыўся ў Чыкага. На ўвагу заслугоўвае акалічнасьць, што многія амэрыканскія наведвальнікі зьвярталі ўвагу на наш назоў «Беларэшша». Яны даводзілі, што назоў гэты канфузіць іх ды ўтоесамляе нас з Расеяй «Рашшай», што мы павінны карыстацца або назовам, як ёсьць у нашай мове — Беларусь, або Вайтрутэнія. Бяссумліву, гэта чыстая праўда, і нам пара пачаць кампанію за правільнасьць нашага назову, а не ў «беграшаўскай» маскоўскай фальсыфікацыі. Фіналам Выстаўкі быў вечар у гонар нашых маладых удзельнікаў 20 лістапада 1965, ладжаны Камітэтам Выстаўкі, які быў створаны ў выніку супрацоўніцтва Згуртаваньня Беларусаў у Ілінойс, Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады і Згуртаваньня Моладзі.




*Беларуская выстаўка ў Чыкага. Старшиня м. Чыкага Рышард Дэйлі сярод нашых прыгажуняў на Выстаўцы.*

*В. П.*

## Міжнацыянальны Фэстываль у Лёс Анджэлесе

Селета Міжнацыянальны Фэстывал у Лёс Анджэлесе адбыўся ад 22-га до 24-га кастрычніка. Ладзілі яго тры арганізацыі: «All Nations Fa'r Assotion», Інтэрнацыянальны Інстытут і «Los Angeles County Department of Parks and Recreation».

Ад Беларусаў у Фэстывалі — выставе й мастацкай праграме — бралі ўдзел арганізацыі БАЗА й БККА. На адкрыцьці Фэстывалю Беларусаў рэпрэзэнтавалі ў нацыянальных строях сп. сп. Я. Бруцкі й І. Стус. Беларускі стэнд на выставе складаўся пераважна з вышываных і тканых экспанатаў. Стэнд быў упрыгожаны вялікім беларускім краявідам, вышытым сп-няй К. Ермін.

Наш мастацкі выступ складаў з двух беларускіх народных танцаў «Крыжачка» й «Бульбы», выкананых чатырма парамі дзяцей у прыгожых нацыянальных касьцюмах. Падрыхтавала дзяцей да танцаў сп. К. Вініцкая.

*Н.*

# З падарожжа па Ангельшчыне

(Заканчэньне з бач. 5-ай)

жаць на прыватных паліцах і часта зусім ня ўжываюцца. Трэба таксама знайсьці формы карыстаньня з фондаў бібліятэкі: выпазычаньнем, мікрафільмамі. Памойму, трэба ўвесьці «сяброўства», абумоўленае укладам кнігаў і грашовай складкай. Дазволю сабе здрадзіць, што ёсьць высокія амбіцыі, якія трэба толькі вітаць: скамплектаваць у гэтай бібліятэцы ў форме мікрафільмаў усе даступныя выданьні з галіны беларусікі, раськіданыя па бібліятэках розных кантынэнтаў. Ужо распачатае фільмаваньне ў бібліятэках Эўропы.

Школа-інтарнат сьв. Кірылы Тураўскага цесна зьвязаная з Домам айцоў Марыянаў. Кожны дзень а 17 гадзіне нехта з айцоў сьпяшае туды на лекцыю беларускай мовы, гісторыі ці іншай галіны беларусаведы. У інтарнаце месьціцца ўжо 14 вучняў. Разьмешчаны ён у двух дамах і можа прыняць да 20 навучэнцаў. Шмат цяжкасьцяў спрычыніла разбудова й перабудова інтарнату, але, на маю думку, найжяцей было стварыць беларускую атмасфэру і ўтрымаць яе ў інтарнаце, дзе вучні рэкрутуюцца з розных краінаў і асяродзьдзяў ды вучацца ў рэгулярнай ангельскай школе. Мой кароткі побыт у Марыянаў Гаўз не дазваляе гаварыць пра глыбіню вынікаў беларускага выхаваньня, але вонкае ўладжаньне інтарнату, ягоны кіраўнік і настаўнікі даюць бясспрэчную гарантыю, што ў гэтым кірунку робіцца ўсё магчымае. Каб ацаніць робленыя высілкі, трэба ўявіць сабе вучня, які прыехаў, напрыклад, зь Нямеччыны, ня ведаў ні ангельскай мовы, патрэбнай у школе, ні беларускай, ніводнай, апрача нямецкай, бо маці немка, і які гаворыць цяпер з сябрамі ў інтарнаце пабеларуску. Гэта вымагае шмат ахвярнай працы.

На маё пытаньне, як прайшоў экспэрымэнт летніх канікулаў, з зьдзіўленьнем даведаўся, што бальшыня дзяцей, якія адпачывалі летам у інтарнаце, — гэта дзяўчаты. Чаму дзяўчаты? «Беларускім хлапцом, — адказаў спакойна кіраўнік інтарнату, — патрэбныя будуць беларускія жонкі . . .» Ужо ёсьць водгукі пра зьмену стаўленьня дзяўчат, што адпачывалі ў інтарнаце, да нацыянальнасьці бацькоў, іхнай мовы; што дзяўчынкі з годнасьцяй дэманструюць сваю беларускасьць у ангельскай школе, у сваёй клясе.

Мне лёгка было сустракацца із старшынём ЗБВБ, сп. Бутрымовічам, які «капаецца» таксама ў матарыялах на тэму паўстаньня беларускага мяшчанства. Добры прыяцель, сп. Лашук, ахвяраў свой вольны час, каб адведаць мяне ды паінфармаваць пра маю адсталасьць у галіне беларускай «палемікі», гэта значыць грызьні, што сабралася ў ягоным архіве. Некалькі такіх «дакумантаў» атрымаў я на дарогу. Зьмест іх пярэчыў усяму хрысьціянскаму ды элемэнтарнай адказнасьці за беларускую грамаду й справу. Колькі энэргіі й сродкаў гіне намарна! Ня чытаецца! Адзвычаіўся я ад гэтай грызьні. Як добра, што ў маю бібліятэку такія экзэмпляры не трапляюць. Божа, скарацi спакусу «кананічным», здымі бяльмо нізкага самалюбства ў «самакананізаваных»! Пашлі ім любоў, заміж нянавісьці!

Гудок параплаву абвесьціў Остэндэ . . .

Абяцаю ня пісаць больш такой даўгой справаздачы. Выбачаюся перад Рэдакцыяй.

**А. Аўгеч**

# Антыкамуністычная Канфэрэнцыя ў Манілі

Ад 7-га да 12-га верасьня сёлета ў сталіцы Філіпінаў Маніле адбылася XI Канфэрэнцыя Антыкамуністычнай Лігі народаў Азіі. У ёй бралі ўдзел 132 дэлегаты з Аўстраліі, Цэйлёну, Нацыянальнанага Кітаю, Гонконгу, Індыі, Ірану, Японіі, Ёрданіі, Карэі, Ляосу, Лібэрыі, Макао, Пакістану, Сомалі, Тайлянду, Турцыі, Ветнаму, Філіпінаў і іншых краінаў Азіі. У якасьці назіральнікаў на Канфэрэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі эўрапэўскіх краінаў і Амэрыкі, а таксама прадстаўнікі паняволеных камуністымі народаў Эўропы. У сувязі з напружаным палажэньнем у Паўдзённа-Ўсходняй Азіі, на Канфэрэнцыю прыбыло шмат адказных палітычных дзеячоў Азіі, Эўропы й ЗША.

Беларусаў годна рэпрэзэнтаваў на Канфэрэнцыі прадстаўнік арганізацыі беларускай моладзі ў Аўстраліі сп. А. Алехнік, які адначасова быў і прадстаўніком аўстралійскай моладзі.

Ня гледзячы на войстры супраціў з боку прадстаўнікоў расейскай арганізацыі НТС і некаторыя засьцярогі з боку АЦЭН — арганізацыі эмігрантаў з краінаў-«сатэлітаў», Канфэрэнцыя прыняла рэзалюцыю, запрапанаваную Антыбальшавіцкім Блёкам Народаў (АБН), у якой ставілася дамаганьне падзелу Савецкага Саюзу на незалежныя нацыянальныя дзяржавы і вызваленьня гэтак званых сатэлітных краінаў з камуністычнае няволі.

*юс*

*Фэльетон*

# Завяртанскія підокі

Летась улетку адыйшоў у вечнасьць незабывальны Пётра Сыч. Ён сканаў заўчасна, яшчэ пяцідзесяцідвохгадовым, што зразумела, калі згадаць ягонае жыцьцё годнае пашаны й перайманьня.

Адразу пасьля гэтак званага «далучэньня аднакроўных братоў» Пётру Сыча арыштоўваюць энкавэдэшнікі і пад час першага допыту выбіваюць зубы. Сьпярша ён пакутуе ў Вялейскай турме, потым у Полацкай, дзе атрымлівае бяз суду 10 год канцлягеру. Праз год савецкае катаргі ў Комі АССР — на Варкуце Пётра Сыч, паводля ўмовы «Сікорскі-Майскі», як польскі грамадзянін, трапляе разам з сотнямі іншых цудам ацалелых Беларусаў у корпус Андэрса. Ягоны шлях ляжыць праз Пэрсію, Ірак, Сырыю, Лібан, Эгіпет да фронту ў Італіі. Тут, як паручнік, ён змагаецца з фашыстамі пад Монтэ-Касына, Анконай і Балёніяй. Пры гэтым быў чатыры разы паранены.

Па вайне Пётра Сыч зьмяняе толькі гатунак зброі ў барацьбе зь іншым ворагам людзтва — бальшавікамі. Ён стаўся заступнікам рэдактара й плодным супрацоўнікам Беларускае сэкцыі Радыё «Свабода». Ягоная патрыятычная праца знайшла вычарпальны адбітак у словах зь ягонае-ж пераше перадачы:

«У тапаграфіі кут, мераны ўправа ад магнэтычнае Поўначы, завецца азімутам. Азімут паказвае нам кірунак простага маршу да мэты. Досыць добра запамятаць на карце кут, і пасьля, гледзячы на стрэлку компасу, можна ўдзень і ўначы йсьці проста да мэты.

Мы, беларускія эмігранты, маем свой зьмераны й добра запамятаны азімут ад месца нашага прабываньня да нашай мэты — Беларусі. І гэты азімут мы завём азімутам сэрца».

Цяпер Пётра Сыч атрымаў узнагароду. У № 887 газэціны «Голас радзімы» зьявіўся фэльетон «Круці, ня круці . . .», што складаецца з рознае лаянкі з прычыны ўгодкаў ягонае сьмерці. Аўтар «твору», нейкі Ражкоў-Ружыцкі, нагадвае нам усяго толькі таго завулковага недарэку Курыльчыка, які вырашыў аплянаваць зорку Зоранку, а ў выніку апляваў сабе ўвесь твар. І ці ня ёсьць самы факт зьяўленьня гэтага фэльетону найлепшым вянком на магілу Сьвятое Памяці Пётры Сыча! Даўся ён у знакі ворагам, калі нават памерлага яны згадваюць яго зь нянавісьцяй.

У змаганьні з фашызмам Пётра Сыч штурмаваў Монтэ-Касына, чаму прысьвечаная ягоная добрая пасьмяротная кніжка з паказальным назовам «Сьмерць і салаўі». А дзе-ж змагаліся й змагаюцца ўбогія завяртанцы? Хіба што, узброеныя маскоўскімі авоськамі, у нязьлічоных «сацыялістычных» чэргах па селядцы ды гуркі.

*

Насупраць Мацейкавае гары ды акурат пад Ільлёвым Возам жыў калісьці небарака Самусь Канцавы, які на Дзяды аладкай падавіўся, а зь яго ўсе капаўкі падабралі сучасныя завяртанцы. Што гэта адпавядае праўдзе, вы адразу пераканаецеся, калі, прыкрыўшы нос, пзнаёміцеся з фэльетонам «Спаміж намі кажучы», надрукаваным у № 864 «Голасу радзімы».

І справа тут палягае нават ня ў тым, што некаторыя прыклады з эміграцыйнае працы «Прыказкі й асаблівыя выказы з Лагойшчыны й Меншчыны», аўтар спрабуе прыстасаваць да тых ці іншых перакручаных ім здарэньняў з жыцьця нашае эміграцыі або да паасобных яму больш ненавісных эмігрантаў. Хай брэша — дастане ад Масквы абгладаную костку. Затое нельга амінуць з тае пісаніны даволі ўсё-ж сьмешнае месца, а уласьне:

«Аналягічная прымаўка ,Адну авечку стрыгуць, а сем трасуцца' адпавядае сытуацыі, калі «Голас Радзімы» зьмяшчае чарговы артыкул аб адным з нас» (г. зн. аб палітычных эмігрантах. Юр. В.).

Ахвоці-ж мне. Ха-ха-ха-ха! Мы шчыра ганарымся з тых артыкулаў ды ад душы цешымся зь іхняга зьяўленьня. Бальшавіцкая лаянка ёсьць найлепшая характарыстыка для кажнага з нас у вачох вольнага людзтва. Таму спадзяемся даставаць іх і надалей з нашымі дакладнымі адрасамі. Асабліва цікавімся карыкатурамі.

А ўсё-ж найбольш да спадобы вельмі трапны канчатак фэльетону, а менавіта:

«Ад душы раю: каб не абніжаць вартасьці сваіх змагарных заслуг, не зьвяртайцеся да фальклору. Бо старажытная мудрасьць народа чамусьці заўсёды б'е па нас» (па камуністых? Юр. В.).

Няўжо-ж не? Што праўда, дык праўда. Як у сук улеплена. Вось бяру з паліцы кніжку, складзеную Яўгенам Рапановічам:

«Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі» , Дзяржаўнае Выдавецтва БССР, Мінск. 1958.

— а ў ёй, на старонцы 141-ай, чытаю: «Дурань заўсёды чырвонаму рад».

*

Ня ведаю, як Рыгору Шырму, але мне дужа спадабаўся фэльетон «Эх, дзядзька Рыгор ! . .» («Голас радзімы», № 888), прызначаны Юрку Віцьбічу. Ён зьяўляецца адказам на артыкул Ю. Віцьбіча «Ці ня сорамна, дзядзька Шырма?», зьмешчаны ў № 631 «Бацькаўшчыны». У ім аўтар, у самым канкрэтным пляне, выказаў сваё зьдзіўленьне ад вернападданага твору Рыгора Шырмы «Калі ласка!» («Советская Белоруссия» ад 10. I. 65 г.), у якім той вітаў гастралёраў з Масквы, даводзячы адначасна сваё плыткае знаёмства згісторыяй, як з роднай беларускай гэтак і з «братняй» расейскай. І ў сваім саматужным фэльетоне завяртанскія «аблакаты» цалкам нагадваюць аднаго паслужлівага, але разам з тым больш за ворага небясьпечнага гэроя з народных прыказкаў.

Паводля думкі завяртанцаў, Рыгор Шырма — гэта велічны слон, а Юрка Віцьбіч усяго крылоўская дробная Мосьсяка, што адважылася на яго напасьці. Вельмі й вельмі сумняваюся, каб некалі сьціплы дзядзька Рыгор Шырма ды пачаў цяпер сам сябе уважаць за слана. Бо калі толькі Рыгор Шырма ёсьць слон, дык хто такія тады Бэтховэн і Бах, Моцарт і Шубарт, Пучыні й Грыг? Маманты? Мастадонты? А можа проста біблійныя Левіафаны, у параўнаньні зь якімі некаторыя сланы нагадваюць шпакоў?

Ідучы далей шляхам завяртанскіх заалёгічных параўнаньняў, хочацца запытацца — А калі Юрка Віцьбіч ёсьць Моська, дык хто тады самыя завяртанцы накшталт прокшаў зь верашчакамі? Бяз сумлеву — підокі. Гэтак у Італіі тытулуюць жалюгодных пісакаў, пазбаўленых чалавецкага сумленьня, пачуцьця нацыянальнае годнасьці ды ўсіх рашуча літаратарскіх здатнасьцяў акрамя аднае — псаваньня паперы. І прашу прабачэньня ў чытачоў за фрывольнасьць — на мове Джовані Баккачо «підокі» гэта нішто іншае, як вошы.

**Юрка Віцьбіч**

### МІЖНАРОДНЫ КАНЦЭРТ У БРАДФАРДЗЕ

26 лістапада 1965 году ў памешканьні Брадфардзкага ўнівэрсытэту адбыўся вялікі канцэрт, наладжаны камітэтам дзеля адзначэньня Году Міжнароднага Супрацоўніцтва, абвешчанага Арганізацыяй Аб'еднаных Нацыяў. Канцэрт адбыўся ў ультра-мадэрнай унівэрсытэцкай залі. Прысутнічала на ім каля 700 асобаў. У канцэрце ўзялі ўдзел і Беларусы. Маладым беларускім артыстым, сябром Беларускага Юнацкага Клюбу, упяршыню давялося выступаць перад такой шматлікай і паважнай аўдыторыяй, бо ў залі, апрача студэнтаў розных кантынэнтаў, прысутнічала шмат сяброў гарадзкога ўраду. Наш малады артысты, наймалодшы з усіх удзельнікаў канцэрту, Антон Мучынскі ўдала выканаў на акардэоне некалькі беларускіх народных мэлёдыяў, а буру воплескаў сабраў за «Чаму-ж мне ня пець». Танцоркі, Ганна й Галіна, прыгожа выканалі «Польку-Янку» пад музыку на мандаліне Юркі Хахолкі. Яны таксама былі ўзнагароджаныя бурнымі воплескамі.

Канцэрт прайшоў вельмі ўдала, пра што можна было прачытаць у мясцовай газэце «Тэлеграф энд Аргус» у нумары з 27 лістапада.

*Янка **Крушына***

### УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ Ў БРАДФАРДЗЕ

У нядзелю 28 лістапада, у беларускай капліцы сьв. Спаса ў Брадфардзе, пасьля Літургіі адбылася жалобная Паніхіда па ўдзельніках Слуцкага паўстаньня, якія аддалі сваё жыцьцё, «каб жыла Бацькаўшчына». Малебен адпраўляў сьвятар БАПЦ Янка Абабурка. У сваім казаньні сьвятар падкрэсьліў значэньне мужнасьці й ахвярнасьці Случчакоў.

У гэты-ж дзень пасьля абеду ў залі Беларускага Грамадзкага Дому адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 45-ым угодкам Слуцкага паўстаньня. Адкрыў акадэмію й прывітаў прытутных старшыня мясцовага Аддзелу ЗБВБ сп. Я. Калбаса. Ён выказаў упэўненасьць, што змаганьне нашага народу ня спыніцца, пакуль ідэалы, за якія змагаліся Случчакі, ня зьдзейсьняцца на нашай Бацькаўшчыне.

Зьмястоўны рэфэрат пра Слуцкае паўстаньне прачытаў сакратар Управы Аддзелу ЗБВБ, сп. Ст. Мак.

На заклік старшыні Ўправы Аддзелу было сабрана на беларускі выдавецкі фонд сем з палавінай ангельскіх фунтаў.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

*Я. Крушына*

### УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ Ў ЧЫКАГА

27-га лістапада ў Чыкага адбылася акадэмія для ўшанаваньня патрыятычнага чыну Случчакоў, зьдзейсьненага імі ў 1920 годзе. Акадэмія адбылася ў Доме Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру. Аб ёй было загадзя паведамлена праз мясцовую радыястанцыю.

Адкрыў акадэмію старшыня Згуртаваньня Беларусаў штату Ілінойс. Устаньнем і хвілінай маўчаньня была ўшанаваная сьветлая памяць удзельнікаў антыбальшавіцкага Слуцкага паўстаньня і ўсіх Беларусаў, што аддалі сваё жыцьцё за свабоду й незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны. Пад акампаніямэнт прафэсара Міколы Куліковіча ўдзельнікі акадэміі прасьпявалі жалобны марш «Сьпі пад курганам героя».

З рэфэратам на тэму Слуцкага паўстаньня выступіў сп. Вацлаў Пануцэвіч. На фоне тагачасных палітычных і стратэгічных абставінаў дакладчык прааналізаваў мэты й разьвіцьцё паўстаньня і прычыны ягонай няўдачы.

Даклад быў вельмі цікавы. Аўдыторыя, якая складалася з Беларусаў розных арганізацыяў і груповак, слухала даклад зь вялікай увагай. Дакладчык зрабіў-бы добрую справу, калі-б свой даклад выдаў друкам.

Увага, зь якой быў слуханы даклад, сьветчыць пра тое, што нашая грамадзкасьць вельмі цікавіцца сваёй гісторыяй. Гэта наводзіць на думку, што трэба, каб нашы дасьледнікі, гісторыкі і ўсе, хто ўмее абыходзіцца зь пяром, менш займаліся бязплоднай пісанінай, а больш — грунтоўнай творчай працай.

**Я. Чарнэцкі**



### У ВЫДАВЕЦТВЕ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» АБО Ў НАШЫХ ПРАДСТАЎНІКОЎ заўсёды можна набыць наступныя кнігі:

Янка Купала. **СПАДЧЫНА.** Выбар паэзіі з крытычным артыкулам Ст. Станкевіча. Бач. 564. Цана 7, 9 або 11 ам. дал. (залежна ад вокладкі й паперы).

Янка Купала. **ТУТЭЙШЫЯ.** П'еса з крытычным артыкулам Р. Склюта. 83 бач. Цана 1 ам. дал.

Янка Купала. **РАСЬКІДАНАЕ ГНЯЗДО.** Драма з крытычным артыкулам Р. Склюта. 58+XV бач. Цана 1 ам. дал.

Якуб Колас. **НОВАЯ ЗЯМЛЯ.** Паэма з крытычным артыкулам Р. Склюта. XXXII+246 бач. Цана 3 ам. дал.

Якуб Колас. **СЫМОН МУЗЫКА.** Паэма з крытычным артыкулам Р. Склюта й А. Бабарэкі. XXXII+238 бач. Цана 3 ам. дал.

Якуб Колас. **У ПАЛЕСКАЙ ГЛУШЫ.** Повесьць. 158 бач. Цана 1,50 ам. дал.

Максім Багдановіч. **ВЯНОК.** Збор твораў з крытычным артыкулам Ст. Станкевіча й Ант. Адамовіча. 274 бач. Цана 3 або 4 ам. дал. (залежна ад вокладкі).

Алесь Гарун. **МАТЧЫН ДАР.** Збор твораў з крытычнымі артыкуламі Ант. Адамовіча й А. Барычэўскага. 268 бач. Цана 3 ам. дал.

Андрэй Мрый. **ЗАПІСКІ САМСОНА САМАСУЯ.** Сатырычная аповесьць з крытычным артыкулам Р. Склюта. 88 бач. Цана 1 ам. дал.

Лукаш Калюга. **НЯДОЛЯ ЗАБЛОЦКІХ.** Аповесьць з крытычным артыкулам Р. Склюта. 127 бач. Цана 1,50 ам. дал.

Власт (Вацлаў Ластоўскі). **ТВОРЫ.** Апавяданьні. 112 бач. Цана 1 ам. дал.

Юрка Віцьбіч. **ПЛЫВЕ З-ПАД СЬВЯТОЙ ГАРЫ НЁМАН.** Мастацкі нарыс. 94 бач. Цана 1 ам. дал.

Аляксей Кулакоўскі. **ДАБРАСЕЛЬЦЫ.** Аповесьць з крытычным артыкулам Ст. Станкевіча. 110 бач. Цана 1 ам. дал.

**БЕЛАРУСКІЯ КАЗКІ.** Зборнік народных казак і літаратурных твораў з казачнымі матывамі. 215 бач. Цана 3 або 4 ам. дал. (залежна ад вокладкі).

**ЛЯ ЧУЖЫХ БЕРАГОЎ.** Альманах твораў беларускіх эміграцкіх паэтаў і пісьменьнікаў. 238 бач. Цана 3 ам. дал.

Рыгор Крушына. **ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ.** Цана 2 ам. дал.




БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларуская газэта палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.